
Адам Вайрак → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Бітва пад Валіламі → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3172) Год LXII Беласток, 26 лютага 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Як гарачы


Рукі паднялі радныя, якія падтрымліваюць пастанову з адмоўным становішчам Рады горада Гайнаўка ў справе намеру арганізаваць 26 лютага II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў

# II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў?

**II Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў хочуць 26 лютага арганізаваць у Гайнаўцы мясцовая «Нацыянальная Гайнаўка» і «ONR» з Беластока. Гайнаўская гарадская радная Эва Рыгаровіч напісала адкрыты ліст да бургаміcтра Гайнаўкі, у якім заклікае граданачальніка не даваць згоды на марш па прычыне намеру правядзення яго, між іншым, каля Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і ў час, калі праваслаўныя вернікі ў Нядзелю прабачэння правінаў маюць там маліцца падчас спецыяльнай вячэрняй багаслужбы перад Вялікім постам і прасіць адзін у другога прабачэння. Радная Рыгаровіч лічыць, што час правядзення маршу і яго траса з'яўляюцца правакацыяй у адносінах да жыхароў горада. З дапамогай гайнавян сабрала яна пад адкрытым лістом подпісы больш за 600 гараджан.**

— Да напісання гэтага ліста спрычыніліся выказванні многіх гайнавян, якія тэлефанавалі мне і гаварылі мне асабіста, што сёлета траса маршу ў гонар выклятых жаўнераў будзе праходзіць якраз каля Свята-Троіцкага сабора і ў час, калі мы будзем там маліцца і прасіць прабачэння правінаў адзін у аднаго. Жыхары нашага горада праваслаўнага і каталіцкага веравызнання заклікалі выступіць супраць такога маршу, а пад адкрытым лістом падпісалася больш за 600 чалавек, якія падзяляюць погляд, што марш 26 лютага ва ўзгаданым мною часе і каля нашага сабора гэта правакацыя ў адносінах да праваслаўных і астатніх жыхароў нашага горада. Мы заклікаем бургаміcтра Гайнаўкі, каб не даваў згоды на гэты марш. Узвялічванне падчас мінулагодняга маршу капітана Рамуальда Райса «Бурага», адказнага за смерць жыхароў нашага рэгіёна, многімі асобамі было прынята вельмі адмоўна. Мы не выступаем супраць усіх выклятых жаўнераў і дня іх памяці, але непатрэбны нам канфлікт з-за трасы і часу правядзення маршу. Супраць арганізавання маршу па згаданай трасе выказаліся, між іншым, праваслаўныя святары і пробашчы каталіцкіх гайнаўскіх прыходаў. Мы спадзяемся, што бургамістр не згодзіцца на марш і ён не адбудзецца, — сказала 16 лютага радная **Эва Рыгаровіч**.

Радныя Клуба радных «Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» яшчэ раней падалі да старшыні Рады горада Гайнаўкі **Якуба Астапчука** праект пастановы з адмоўным становішчам Рады горада ў справе намеру арганізаваць 26 лютага II Гайнаўскі марш выклятых жаўнераў, у вячэрнім часе і па раней намечанай трасе і запрапанавалі скліканне ў экстранным парадку пасяджэння Рады горада ў гэтай справе.

На нечарговую XXVI сесію Рады горада Гайнаўкі 17 лютага апрача гарадскіх радных прыбылі прадстаўнікі шматлікіх масмедыяў, паколькі марш у гонар выклятых жаўнераў выклікае эмоцыі не толькі ў Гайнаўцы, але і іншых мясцовасцях Падляшскага ваяводства. Парадак пасяджэння Рады быў прыняты 19 раднымі, пры адным голасе супраціву, а адзін радны не прыняў удзелу ў сесіі. **Эва Рыгаровіч** з Клуба радных «Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» зачытала свой адкрыты ліст бургамістру Гайнаўкі супраць правядзення маршу ў гонар выклятых жаўнераў па трасе і ў часе, якi запрапанавалі яго арганізатары і тлумачыла, што супраць арганізавання такога маршу выказваюцца праваслаўныя і каталіцкія жыхары Гайнаўкі, якія хочуць жыць у спакоі і згодзе. Падчас дыскусіі выказаліся гарадскія радныя выбраныя са спіска Выбарчага камітэта «Права і справядлівасць» **Караль Няцецкі** і **Пётр Міронччук**, якія заявілі, што падтрымаюць праект становішча Рады супраць маршу. **Караль Няцецкі** гаварыў, што многія яго выбаршчыкі гэта праваслаўныя асобы, з якіх многа падчас маршу будзе маліцца ў саборы і калі б ён падтрымаў марш з загадзя прапанаванымі трасай і часам, то не мог бы, як католік, глянуць у вочы праваслаўным. **Пётр Міронччук** зачытаў ліст, які напісаў разам са сваімі выбаршчыкамі і ў ім, між іншым, звярнуў увагу, што вельмі мала трэба, каб выклікаць неспакой у маршы, які меў бы праходзіць каля сабора. Выбраны са спіска Выбарчага камітэта «Права і справядлівасць» **Багуслаў Лабэндзкі**, суарганізатар мінулагодняга Гайнаўскага маршу ў гонар выклятых жаўнераў, быў адзіным радным, які заступіўся за планам сёлетняга маршу ў гонар выклятых жаўнераў. Заявіў ён, што незалежна ад становішча Рады горада Гайнаўкі марш памяці выклятых жаўнераў будзе арганізаваны ў Гайнаўцы ў гэтым і наступных гадах. **Радны Лабэндзкі** гаварыў, што марш будзе мірным, а яго ўдзельнікі не будуць заходзіць у сабор, калі там будуць маліцца праваслаўныя вернікі. Аднак некаторыя радныя ставілі пытанне, як можна цяпер гарантаваць, што марш будзе мірным, што яго ўдзельнікі не ўвойдуць у сабор падчас багаслужбы і не будуць голасна паводзіць сябе, праходзячы каля сабора? Раней паявілася яшчэ пытанне, ці ўдзельнікі маршу не будуць паліць факелаў пасля змроку, калі затрымаюцца непадалёк ад сабора, дзе мае закончыцца марш?

Радны **Багуслаў Лабэндзкі** прачытаў выказванне біскупа-сеніёра **Антонія Дыдыча**, які раней кіраваў Драгічынскай дыяцэзіяй, да якой належаць каталіцкія парафіі ў Гайнаўцы, як голас аўтарытэтнай асобы. Біскуп станоўча выказваецца наконт трасы і часу II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, гаворачы, што ўдзельнікі маршу могуць ісці каля царквы, а праваслаўныя вернікі ў гэтым часе маліцца. Радная **Марыя Шліфарская** гаварыла, што марш у запрапанаванай форме можа выклікаць непатрэбныя эмоцыі і супярэчлівасці паміж жыхарамі Гайнаўкі.

— Мы дагэтуль жылі ў Гайнаўцы ў згодзе, а арганізатары маршу хочуць пасварыць наша грамадства. Мы ўмеем шанаваць герояў і можам гэта зрабіць молячыся ў касцёле і царкве, — сказала радная ад Клуба радных «Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» **Марыя Шліфарская**.

— Словы біскупа **Антонія Дыдыча** паразілі праваслаўных жыхароў Гайнаўкі, якія лічылі яго сваім прыяцелем... Беларуская меншасць адчувае пагрозу ад маршу, — гаварыла радная **Эва Рыгаровіч** і разам з раднай **Марыяй Шліфарскай** заклікалі не праводзіць марш у гонар выклятых жаўнераў каля сабора, калі праваслаўныя вернікі будуць там маліцца напярэдадні Вялікага посту, калі патрэбнае суцішэнне эмоцый.

У пастанове з адмоўным становішчам Рады горада Гайнаўкі ў справе намеру арганізаваць 26 лютага II Гайнаўскі марш выклятых жаўнераў напісана, што Рада горада Гайнаўка выяўляе рашучы супраціў у справе публічнага сходу, арганізаванага з нагоды Нацыянальнага дня выклятых жаўнераў у выглядзе маршу па трасе ад Касцёла Узвышшэння Святога Крыжа і па вуліцах 3-га Мая, Стэфана Баторыя, айца Антонія Дзевятоўскага (каля Свята-Троіцкага сабора), Тамары Саланевіч (каля Гайнаўскага дома культуры, дзе шэсце мае закончыцца)... **Пастанова была прынята 19 раднымі, ніхто не стрымаўся ад голасу, толькі радны Багуслаў Лабэндзкі быў супраць. Падчас пасяджэння Рады горада не выступаў бургамістр Ежы Сірак**, які пасля закончэння сесіі сказаў журналістам, якое будзе яго становішча ў справе прапановы правядзення маршу 26 лютага ў Гайнаўцы па намечанай трасе.

— Я, як бургамістр Гайнаўкі, не пагаджаюся на такі час і на такую трасу маршу і таму адмоўлюся даць згоду на правядзенне маршу. Несумненна я прыму такое рашэнне, бо хочуць гэтага праваслаўныя і каталіцкія жыхары нашага горада, якія звярталіся да мяне з просьбай забараніць праводзіць марш у гонар выклятых жаўнераў у запрапанаванай форме. Гэта таксама выразна відаць у становішчы Рады горада і ў яе выразнай сённяшняй падтрымцы гарадскімі раднымі. **У панядзелак раніцай, калі я буду ў бальніцы, мой намеснік Андрэй Скепка падпіша такое рашэнне ад майго імя**, — заявіў пасля закончэння нечарговай сесіі Рады бургамістр **Ежы Сірак**. — Сваё адмоўнае рашэнне наконт правядзення маршу я абгрунтоўваю небяспекай за здароўе і жыццё нашых жыхароў падчас маршу. Мае працаўнікі спаткаліся з **Давідам Палешукам**, які звярнуўся да нас з заявай даць згоду на правядзенне маршу, і прапанавалі яму арганізаваць марш у суботу, 25 лютага або ў нядзелю, 26 лютага, але па іншай трасе, з-пад скрыжавання з кругавой развязкай імя Яна Паўла II, па вуліцы 3-га Мая, у наваколле магазіна «Бядронка» (прыблізна па гэтай трасе ішоў мінулагодні марш у гонар выклятых жаўнераў, — А. М.), але ён ад кампрамісных прапаноў адмовіўся. Я сам не магу вызначыць іншую трасу і час маршу, чым яго арганізатар. Ад маёй адмовы даць згоду на правядзенне маршу можа ён апеляваць да Акругоавага суда ў Беластоку, які ў хуткім часе павінен прыняць пастанову ў справе маршу.

Яшчэ перад нечарговым пасяджэннем Рады горада Гайнаўкі **Давід Палешук** заявіў, што марш у гонар выклятых жаўнераў будзе праведзены ў раней запланаваным часе і па запланаванай трасе, незалежна ад перашкод. **Пасля XXVI сесіі Рады горада Гайнаўкі на фейсбуку «Нацыянальнай Гайнаўкі» паявілася інфармацыя: «З гэтага месца завяраем — маніфестацыя адбудзецца»** і паведамляецца там пра намер апеляваць на пастанову бургамістра Гайнаўкі да суда.

— Калі б суд адхіліў маё рашэнне і марш меў адбыцца ў Гайнаўцы, я заклікаю праігнараваць яго, захаваць спакой, развагу і калі няма такой патрэбы, застацца ў дамах у час правядзення маршу, — заявіў пасля пасяджэння Рады бургамістр **Ежы Сірак**.

Аб планах правядзення маршу была паінфармаваная Павятовая камендатура паліцыі ў Гайнаўцы і зараз незалежна ад таго, ці марш адбудзецца, вядзе яна падрыхтоўку па забеспячэнні правядзення II Гайнаўскага маршу ў гонар выклятых жаўнераў і мае намер карыстацца дапамогай паліцыянтаў з-па-за гайнаўскай камендатуры, так як было падчас забеспячэння правядзення мінулагодняга I Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў. Калі 26 лютага ў Гайнаўцы адбудзецца II Марш у гонар выклятых жаўнераў, напішам аб ім у наступным нумары.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Без варыянтаў

Здарылася тое, што мусіла здарыцца. Людзі выйшлі на вуліцу.

І гэта пры тым, што арганізацыі практычна аніякай не было, толькі заклікі, каб прыйшлі. Ды і заклікі не кожны мог зразумець. Адны лідары апазіцыі кажуць пра адну дату, другія пра другую. Нават папракнуць адны другіх паспелі. Так толькі заблытаць можна, а не сарганізаваць. Але людзі прыйшлі.

І гэта пры тым, што выходзіць небяспечна. Улада зрабіла ўсё, каб выходзіць было страшна. Неверагодна вялікія кары за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве, мноства спецслужбаў якія здымаюць прама ў твар кожнага, небяспека падпасці пад пераслед ужо даўно не мажлівасць у тэорыі, а звычайная практыка і звыклая беларуская рэчаіснасць.

І гэта пры тым, што спадзяванні малыя. Перспектывы смутныя. Нават калі гэты падатак адменяць, гэта ўсё адно нічога не вырашае. І не паляпшае агульнай сітуацыі. Справа не ў гэтым канкрэтным падатку...

— Я прыйшоў змагацца за сваю годнасць, — кажа сярэдніх гадоў мужчына. — Я ўсё жыццё працаваў. А пасля мяне скарацілі. І вось зараз, з самай высокай дзяржаўнай трыбуны, людзі, якія знішчылі нашу эканоміку і пакінулі мяне без працы, называюць мяне дармаедам. А ў мяне яшчэ мазалі не паспелі пазлазіць. А яшчэ ў мяне малыя дзеці. Мне сорамна ім глядзець у вочы. Яны пытаюцца ў мяне, што такое тунеядзец. Як мне ім растлумачыць, што я не дармаед.

— А я прадпрымальнік, — гаворыць малады мужчына. — І прадпрымальнік вельмі паспяховы. У мяне ёсць грошы. Я плачу вельмі шмат падаткаў. І я магу дазволіць сабе, каб мая жонка не працавала. Я працую за нас абодвух, бо ў мяне гэта атрымліваецца. А падаткаў выплачваю можа за дваццаць чалавек. Я працую па пятнаццаць гадзін штодзённа і без выходных. Таму мая жонка займаецца хатняй гаспадаркай, дзяцьмі, сваімі і маімі бацькамі і мной. У яе клопатаў не менш чым у мяне. Але мы так вырашылі, размеркавалі абавязкі і правільна зрабілі. У нас стала атрымлівацца. І вось ёй прыходзіць ліст шчасця. Яна аказваецца некаму мусіць заплаціць! За што? У нас ёсць грошы! Мы маглі б сабе дазволіць і гэтую выплату. Але як мы будзем тады выхоўваць сваіх дзяцей? Што мы ім скажам, што іх руплівая матуля дармаедка? Не! Мы лепш ім пакажам, хто сапраўдныя дармаеды.

У Менску, Гародні, Берасці, Гомелі, Магілёве, Віцебску людзі паказалі, што яны ўжо самі могуць сарганізавацца і нават гэта зрабілі. І гэта азначае, што цяпер з імі ўжо нічога не зробіш. Бо з грамадствам, якое можа самаарганізавацца, змагацца немажліва. Іх патрабаванні не скончыліся эканамічнымі ўльтыматумамі. У іх не было партрэтаў аніякіх лідараў — ні ўладных, ні апазіцыйных. Але ў іх былі бел-чырвона-белыя сцягі. І гэтым усё сказана.

Пачаўшы з патрабавання адмены дэкрэта пра так званых дармаедаў, прысутныя закончылі патрабаваннямі свабодных выбараў, як гэта было ў Менску. У Гародні людзі крычалі : „Не бойцеся!!!”. А галоўнымі выкрыкамі па ўсёй краіне было неўміручае „Жыве Беларусь!!!”.

— У мяне проста няма грошай, каб плаціць, — кажа сталага веку жанчына.

— А ў мяне больш няма цярпення, каб цярпець, — кажа яе сяброўка.

Першая хваля вулічных акцый скончылася. Ва ўладных колах зараз хіба ламаюць галовы, што ім з гэтым усім рабіць. Думаю, што разглядаць яны будуць толькі два варыянты. Першы — зацiснуць гайкі яшчэ больш, пакараць удзельнікаў, мажліва ўвесці пры патрэбе каменданцкі час ці яшчэ што там, сіл на ўсё гэта пакуль што хапае. Не хапае грошай.

Другі варыянт гэта лёгкая паказная лібералізацыя, ілжэбачнасць круглага стала з прадстаўнікамі грамадскасці, адмена дэкрэта... Зноў жа будзе бракаваць грошай.

Вось і атрымліваецца, што абодва варыянты для ўлады кепскія. Саступаць гэтая ўлада не прызвычаеная, не ўмее гэтага рабіць і не хоча. А заціскаць гайкі ўжо няма куды. Можна разбіць сарваць.

Для апанентаў улады першы варыянт таксама кепскі. З ім усё ясна. Але калі хто думае, што для іх другі варыянт добры, то ён таксама моцна памыляецца. Другі варыянт не можа быць добрым, бо ён не сапраўдны.

Сітуацыя патавая. Без варыянтаў.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Прадпрымецца

У Беларусі адбылося нешта незвычайнае. На вуліцах Гомеля, Віцебска і некалькіх яшчэ гарадоў праходзілі ў апошнія дні масавыя дэманстрацыі. Накіраваныя галоўным чынам супраць прэзідэнцкага ўказа № 3, не былі яны, аднак, вольныя ад шаблонных на працягу многіх гадоў палітычных лозунгаў, такіх як «Лукашэнка сыходзь!». Згаданы ўказ прэзідэнта ўводзіць падатак на так званых «тунеядцаў» — дармаедаў, а налічвае ён 800 злотых. Па бягучым абменным курсе беларускага рубля, сума, несумненна, немалая. Нават для тых, хто займаецца мурашыным гандлем на памежжы. Паразітам-дармаедам па вызначэнні ўказа з'яўляецца кожны, хто рабіў менш чым 183 дзён у год. Калі беларуская гаспадарка ледзь дыхае, і дзяржаўная эканоміка сыплецца як пілавіннe з трубаправода, злучаючага Расію з Беларуссю, поўнапрацоўны час занятку не ў стане выказаць нават гіпатэтычныя напіхачы плюшавых мішак. Што ж тады казаць пра рабочых на заводах, якія працуюць па адну трэць свістка або земляробах у зімовую пару, калі плён да гэтага часу сабраны? У дэманстрацыях прынялі ўдзел — падкрэсліваюць агенцтвы — не толькі актывісты апазіцыі і незалежныя прафсаюзы, але і пенсіянеры, якія скардзяцца на нізкія пенсіі, моладзь, якая заўжды незадаволеная жыццём і невядома чаму — сем'і з дзецьмі.

Гэтым своеасаблівым пратэстам папярэднічала ранейшая на некалькі дзён відная сустрэча Лукашэнкі з галоўным рэдактарам апазіцыйнай «Народнай волі» Язэпам Сярэдзічам, які — як ён сказаў — заклікаў кіраўніка дзяржавы арганізаваць беларускі круглы стол. Няхай бы быў і квадратны. Прызнаўся прытым, што Лукашэнка «як прэзідэнт сёння не такі, якім ён быў 15-20 гадоў таму», і што «як ніхто разумее ён небяспеку, якая можа стаяць перад Беларуссю, калі не прадпрымецца рашучых дзеянняў». Асаблівае супадзенне першай часткі яго прамовы са словамі маршалка Сената Рэчы Паспалітай, які некалькі месяцаў раней гасцяваў у прэзідэнцкім палацы ў Менску, які пасля шчаслівага вяртання ў краіну агучыў не так ідэнтычную, як у роўнай ступені поўную наіўнасці фразу, бянтэжыць. Можа давайце шчыра скажам, што маршалак быў мабыць больш уражаны манументальнай прэзідэнцкасцю палаца, чым самім прэзідэнтам, які заве сябе, дарэчы, толькі генералам.

Цікава таксама тое, што тлумнае выступленне беларусаў у апошнія дні не сустрэлася з якімі-небудзь рэстрыкцыямі ўлад. Нікога не патузалі, ніхто не быў арыштаваны, што з 2010 года ўжо не такое відавочнае, калі пасля прэзідэнцкіх выбараў уціхамірвалі масава пратэстуючых грамадзян, якія абвінавацілі пераможнага кандыдата ў фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Пра тыя падзеі прыгадвае Андрэй Саннікаў, у той час контркандыдат на прэзідэнцкае крэсла, у той час яшчэ неўсвядомлены ў сваіх апазіцыйных цяжкіх выправаваннях у будучыні, у нядаўна апублікаванай кнізе «Беларуская рулетка». Яе апублікавала заслужанае для беларускай дэмакратыі выдавецтва «Карта», субсідаванае на працягу многіх гадоў польскім урадам. Аднак, дзякуючы афіцыйным візітам у Беларусь польскіх дэпутатаў, якія прадстаўляюць лагер цяперашняй улады і спрэчнай стратэгіі яе дыпламатычнага ведамства, «Карта», падобна як беларускамоўнае Радыё Рацыя і тэлеканал Белсат могуць быць неадкладна ліквідаваны. Нягледзячы на нясмелыя пратэсты беларускіх і польскіх інтэлектуалаў, нягледзячы на заклікі дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі да падтрымкі, справа здаецца быць вырашанай. Вашчыкоўскі!

У той жа час, арганізатары дэманстрацыі супраць указу № 3 — не ведаю толькі, хто: ці пенсіянеры, моладзь, сем'і з дзецьмі, ці актывісты апазіцыі і незалежных прафсаюзаў — прадбачваюць эскалацыю пратэстаў. Можна лічыць, што пройдуць яны так спакойна, як і раней. Нікога не будуць біць дубінкамі. Нікога не арыштуюць. Сапраўдныя, мабыць, запэўніванні ці то Язэпа Сярэдзіча, ці то маршалка Сената Рэчы Паспалітай, што Аляксандр Лукашэнка «як прэзідэнт сёння не той, які быў 15-20 гадоў таму». На самой справе, ён старэйшы і разумнейшы на некалькі чарговых прэзідэнцкіх тэрмінаў, таму «як ніхто іншы разумее небяспеку, што можа стануць перад Беларуссю, калі не прадпрымецца рашучых дзеянняў».

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За гістарычную праўду — нашу і вашу? (2)

«Jeśli domagamy się od Ukraińców weryfikacji podejścia do UPA (a należy to zrobić jak najszybciej), to najpierw powinniśmy rzetelnie przyjrzeć się naszym Wyklętym. Oczywiście nie porównuję tych dwóch formacji, bo potężna różnica polega na tym, że ta pierwsza była z gruntu bandycka, choć zdarzały się postaci prawe, a u nas odwrotnie — pośród masy prawych Żołnierzy, mielismy jednostki w postaci bandytów.

Nie ulega wątpliwości, że ogromna większość Wyklętych była Bohaterami, ale nie wolno gloryfikować tych, którzy pod hasłem «Bóg, Honor, Ojczyzna» dokonywali zbrodni na ludności cywilnej. A takie postaci jak «Bury» czy «Ogień» są — mówiąc bardzo delikatnie — kontrowersyjne. Bóg jest Miłością, a ten, który «w imię Ojczyzny» zionie nienawiścią tak, że morduje bezbronnych cywili (a szczególnie kobiety i dzieci), nie ma prawa odwoływać się do Honoru».

Аўтарам гэтых радкоў з'яўляецца, і гэта цікава, не хто іншы, а Павел Кукіз, палітык і музыка з вельмі моцна сфармаванымі правымі поглядамі. З'явіўся яны ў інтэрнэце ў апошнія выхадныя. У складзе ягонай парламенцкай групоўкі знаходзіцца частка паслоў, такіх як беластоцкі дэпутат Адам Андрушкевіч, вядомы сваімі эндэцкімі поглядамі, які зараз з'яўляецца адной з зорак тэлевізійнай публіцыстыкі і даверанай асобай у вачах беларускіх дыпламатаў у Польшчы, з якімі ахвотна абмяркоўвае польска-беларускую палітыку. Цікава, ці беларускі МЗС і Аляксандр Лукашэнка, якія яго прымаюць і велічаюць, свядомыя таго, што ў мінулагоднім гайнаўскім І Маршы памяці выклятых жаўнераў, прысвечаным памяці Рамуальда Райса «Бурага», амбітны пасол актыўна выкрыкваў, што «Буры» гэта ягоны герой. У зваротнай дарозе ў Беласток праз скансэн «Сяло Буды» на яго фоне шчоўкнуў сабе фотку, захвальваючы прыгажосць падляшскіх краявідаў... Але прытым добра ведаючы, што стваральнікам і апекуном гэтага месца з'яўляецца Сяргей Нічыпарук, чалавек, сям'я якога трагічна пацярпела ў Залешанах менавіта з рук «Бурага». І калі для беларускіх дыпламатаў такія погляды і дзеянні падляшскага пасла не з'яўляюцца праблемай, дык гэта толькі пацвярджэнне, што кожная палітыка гэта зараз цынічная гульня, а беларускі пункт гледжання не з'яўляецца каштоўнасцю цяперашняй мінскай улады. А можа пасол Адам Андрушкевіч памяняў свае погляды наконт «Бурага» ці «Лупашкі» і іхніх злачынных дзеянняў у дачыненні да беларускай нацыянальнай меншасці на Падляшшы ў пасляваенны перыяд?

Ці словы ягонага парламенцкага лідара Паўла Кукіза пра «Бурага» і «Агня» не з'яўляюцца заклікам апаматацца ў празмернасці міфалогіі «выклятых жаўнераў». Безадказная палітыка беззаганнай польскай гістарычнай памяці можа стаць прычынай разладу ў самім польскім грамадстве. Такой асобай з'яўляецца менавіта вышэйзгаданы «Агонь». Гэта Юзэф Курась — пасляваенны важак на поўдні Польшчы ў ваколіцах Новага Тарга на польска-славацка-лэмкаўскім памежжы. У гэтыя выхадныя адбыліся ўшанаванні ягонай асобы як «выклятага жаўнера» на дзяржаўным узроўні з усёй афіцыйшчынай і пасмяротным павышэннем у афіцэрскім званні. Нават для мясцовай часткі польскіх горцаў асоба «Агня» — неўспрымальная ў якасці маральнага прыкладу і жаўнерскага ўзору, нягледзячы на-тое, што з рук нямецкіх акупантаў у час вайны загінулі яго самыя блізкія, родныя. Шмат гадоў супраць гэтай асобы выступае Таварыства славакаў у Польшчы, а паміж польскім і славацкім Інстытутамі нацыянальнай памяці пануе поўнае разыходжанне ў ацэнцы ягонай дзейнасці. Так, што шкала напружанняў на рэальных польскіх памежжах у пасляваенны час наконт сённяшняй ацэнкі «выклятых жаўнераў» паміж большасцю і меншасцямі высокая, а погляды — супярэчлівыя.

Спробы накінуць сёння толькі адзіную праўду гістарычнага мінулага пасляваенных гадоў грамадству і асабліва яе маладым пакаленням вядзе, на жаль, да звычайнага фальшавання рэчаіснасці, а тым самым да выхоўвання моладзі не ў духу адказнага і разумнага патрыятызму.

**Яўген ВАПА**



Адам Вайрак у «беларускай хатцы» аб'яднання АБ-БА

# Пушча мяняецца

**Адам Вайрак**, жыхар Белавежжа, завітаў 16 лютага на вечаровую сустрэчу з цыкла „Пагаворым пра...” у „Склеп з культурай” пры ПШ № 4, які вядзе згуртаванне АБ-БА на карысць дзяцей вывучаючых беларускую мову. Прыбыло на яе шмат людзей, зацікаўленых Белавежскай пушчай, з усяго Беластока, не толькі з беларускага асяроддзя. Адам Вайрак, журналіст, эколаг, пісьменнік, «класік польскай журналістыкі пра прыроду і экалогію не толькі ў Польшчы» — з'яўляецца аўтарам кніг і артыкулаў пра натуру, у тым ліку для дзяцей. Родам ён з Варшавы — з Жалібожа — жыў там паміж Яцкам Куранем і Яраславам Качынскім. Белавежскую пушчу, якую першы раз убачыў на школьнай экскурсіі, аблюбаваў для жытла і стаў яе свядомым жыхарам — з 1997 года жыве ў пушчанскай вёсцы Тэрэміскі, сярод звяроў, вядзе даследаванні і назіранні. Супрацоўніцтва з «Выбарчай газетай» пачаў яшчэ ў ліцэі, пішучы артыкул пра знікненне рысяў. Пушчу лічыць агульным багаццем чалавечнасці, якое аддадзена нам у рукі. На яго думку найлепш было б, калі б чалавек не навязваўся пушчы са сваёй апекай і гаспадаркай, а дазволіў кіравацца ёй уласнымі правіламі.



Мікола Ваўранюк і Адам Вайрак



Эколаг захапляецца кожнай часцінкай Пушчы, апякуецца таксама жывёламі, якія трапілі ў яго дом. Гэта былі між іншым дзясяткі буслоў, выдра, барсукі.

— Вельмі люблю зуброў. Як такому вялікаму звяру ўдалося вытрываць: зубр перажыў змены клімату, пазбегнуў вымірання. Маманты, насарогі, туры, дзікія коні вымерлі, а зубр выжыў. Удалося адрадзіць від. У Белавежскай пушчы нейкім цудоўным чынам і праз свядомае дзеянне польскіх каралёў і рускіх цароў тое ўмяшанне чалавека было невялікім.

Журналіст абвінавачвае міністэрства ў прыкладанні сякеры да манументальных, маючых больш чым сто гадоў дрэвастояў. На яго думку, цяперашнія дзеянні не маюць прэцэдэнту і «лесніќі са сваёй лясной гаспадаркай з'явіліся ў пушчы толькі ў 20-я гады мінулага стагоддзя». Кажа, што марыць аб забароне высечак ва ўсёй пушчы, а не толькі на плошчы нацыянальнага парку: Трэба ахапіць абаронай не толькі самыя каштоўныя кавалкі пушчы, але і тыя, пераўтвораныя чалавекам, каб яны змаглі спантанна рэнатуралізавацца. Такая натуралізацыя зноў вярнула б прыроду да этычнага статусу вольнага развіцця, якое парушыла дзеянне чалавека. Вайрак не хацеў бы, каб прыродзе «дапамагалі», таму што яна там самая прыгожая, дзе чалавек яе не чапаў, а фатальная там, дзе ён яе «падтрымлівае». Яго ідэальнай абаронай усіх дрэвастояў было б пакінуць іх на волю лёсу, каб маглі «залізаць свае раны», не толькі ў нацыянальных парках, але ў сэлым — гаспадарчым лесе, запаведніках. Эколаг таксама супраць паляванняў паводле новых правіл Паляўнічага закона:

— Хопіць, што паляўнічы палічыць, што ты мяшаеш яму ў паляванні, і будзе мець магчымасць выдаліць цябе з лесу. Такіх змен у законе аб паляванні хоча міністр. Шышка ўяўляе сабой кансерватыўнае лобі. Лічыць, што ўсюды і заўсёды трэба паляваць і гэта з'яўляецца самым важным у свеце! Паляўнічыя будуць не толькі ў стане выгнаць чалавека з лесу, які належыць дзяржаўнай казне, але і вытурыць уладальніка з яго зямлі. Хопіць яму палічыць, што мяшае ў паляванні. Уладальнік зямлі павінен будзе даказаць у судзе, што яго нязгода на палявання вынікае з рэлігійных вераванняў!

— Увесь гэты канфлікт за тыя ўміраючыя з-за караеда елкі палягае на тым, што некаторыя кажуць: «Божа, як гэта выглядае! Гэты елкі мёртвыя!» Памерлі, ну і што з таго? У лесе ёсць уміранне, ёсць і жыццё. Гэтых канфліктаў многа. Гэты канфлікт пачаўся недзе ў 1915 годзе, з уваходам нямецкіх войскаў, якія дэ-факта ўвялі лясную гаспадарку ў пушчы, і гэты канфлікт, лічу, ідзе к канцу. Гэта апошняе «падрыгванне» міністра Шышкі і тых людзей, якія лічаць, што лес не можа жыць сам, што не можа быць мёртвых дрэў у лесе, што чалавек павінен усё выразаць і пасадзіць новае, што прырода мусіць быць «аблічальная». Адзін ляснік на канферэнцыі сказаў: «Ну дык мы ўсімі сваімі прыладамі зробім так, каб пушча была такая якую мы ведаем». Як так? Яна ж увесь час мяняецца. За Брынкена была іншая, за Пачоскага была іншая, за Карпінскага іншая, і ўсё гэта ёсць у апісаннях. Праз момант пушча будзе яшчэ іншая. Яе цудоўнасць у тым, што яна так развіваецца ў прасторы, што так булькоча, мяняецца. Гэта ўсё нечаканае, непрадбачвальнае... Тут раслі елкі, а тут ліпы, грабы ці што іншае. Праз нейкі час будзе іначай. Гэта жывы арганізм, у якім смерць з'яўляецца звычайнай з'явай. А ў мёртвай елі больш жывога развіваецца, чым на жывой. Пры дапамозе радарных метадаў праверылі, колькі ёсць мёртвых дрэў у Белавежскай пушчы. Стаяўшых мёртвых дрэў у 2015 годзе было паўтара працэнта ўсіх стаяўшых. Гэта вельмі мала. Мяркуецца, што ў звычайным лесе мёртвых дрэў, стаяўшых і ляжаўшых, павінна быць адна трэць таго што жывое. Папраўдзе ўсё тое жывое багацце жыве на мёртвай драўніне — усе тыя хрушчы, грыбы, слізнякі, птушкі — такія як дзяцел трохпальцы ці совачка — звязаны з мёртвымі дрэвамі. У экасістэмах маем так, што вялікія арганізмы жывыя, а пасля яны мёртвыя. Міністэрства аховы асяроддзя ў Польшчы лічыць, што трэба выразаць тыя мёртвыя дрэвы, таму што тут зараза і бог ведае што, і такім чынам выбіваем гэтых дзятлаў, хрушчоў, слізнякоў, якія на гэтым бытуюць. Гэта проста дэвастацыя гэтай экасістэмы. Гэта відаць у нацыянальным парку, і па-за ім — дзе прырода маецца лепш... На мой погляд канфлікт паміж дзвюма групамі, якія хочуць ахоўваць пушчу па-свойму, у параўнанні з тым, што было 20 гадоў таму, прыгасае. Было зроблена шмат пазітыўных крокаў. Мясцовыя людзі бачаць, што маюць больш карысці ад таго, што пушча не вырэзваецца чым ад яе высечкі. Калі паглядзець на дадзеныя аб беспрацоўі і аб заможнасці жыхароў Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў, дзе ў Кнышынскай пушчы няма эколагаў і выразка ідзе поўным ходам, там беспрацоўе каля 5% і заможнасць намнога меншая, чым у Гайнаўскім павеце. Тое, што лес эксплуатуецца, прыносіць даходы, але вельмі вузкай групе. Ахова пушчы на працягу гэтых 20 гадоў вельмі моцна пайшла ўперад. Белавежскі парк павялічаны, зроблена сетка запаведнікаў. Трэба такія правілы, каб людзі маглі хадзіць па пушчы і ёю карыстацца. У Польшчы ахова лесу вельмі рэстрыкцыйная: або не рэжам і няма ўвогуле ўступу ў лес, або рэжам. І гэта праблема, не толькі ў Белавежскай пушчы. Няма такога правіла, што чалавек без пілы і стрэльбы мог сабе хадзіць па ахоўнай частцы. Няхай сабе робіць здымкі, збірае грыбы, назірае за птушкамі... Я лічу, што на працягу 5-10 гадоў уся пушча будзе пад аховай. І гэта вялікі шанц для ўсяго рэгіёна. Ні адно месца ў Еўропе не мае такога лесу. Размаўляю з валадарамі Гайнаўкі і паказваю прыклад Шпіцбергена, дзе ёсць мястэчка Лонгебірэн (2,5 тысячы жыхароў), якое стаяла на вугалі, займаліся там таксама паляўнічтвам. Калі закрылі шахты, не ўбачыш там шахцёра. Адна шахта стала Банкам насення. Мясцовая грамада пры дапамозе ўрада змяніла абсалютна профіль. Урад заснаваў там вельмі добры ўніверсітэт, паколькі ўвага свету засяроджана на Арктыцы, і ёсць патрэба абучэння спецыялістаў. Ва ўніверсітэце ёсць курсы па ахове арктычнай прыроды, эксплуатацыі рэсурсаў і г.д. Гэты ўніверсітэт спрычыніўся да таго, што мястэчка ажыло, паявіўся таксама цэлы турыстычны бізнес... Гэта была б прапанова таксама для такой Гайнаўкі. Чаму б у Гайнаўцы не меў бы ўзнікнуць найлепшы Лясны ўніверсітэт у Еўропе? Даследчыкая тэрыторыя вакол такая, якой не мае ніхто ў свеце....

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Турызм у Арлянскай гміне

Чыстае асяроддзе і суседства Белавежскай пушчы з’яўляюцца прываблівымі фактарамі для турыстаў. Турыстычную прывабнасць падмацоўваюць таксама мясцовыя архітэктурныя помнікі; на жаль, частка апошніх патрабуе рамонту, а некаторыя пападаюць у руіну. Абнадзейвае вяртанне 19 лістапада леташняга года абноўленай скульптуры Яна Непамуцкага на сваё месца ў Шчытах-Дзенцялове. 23 лістапада мінулага года войт і Гмінная рада атрымалі ліст ад новага настаяцеля Арлянскага прыхода з „гарачай просьбай аб фінансавай падтрымцы капітальнага рамонту гістарычнай драўлянай званіцы з XIX стагоддзя ды частковага рамонту Міхайлаўскай царквы”.

**Архітэктурныя помнікі**

У Орлі:

- царква св. Архістраціга Міхаіла з 1797 года;
- званіца з XIX ст.;
- праваслаўныя могілкі;
- могільнікавая царква свсв. Кірылы і Мяфодзія.

У XVI стагоддзі ў Орлі былі дзве царквы: св. Сімяона Стоўпніка і св. Іаана Багаслова. Гэты апошні храм існаваў да XVIII ст., а Сімяонаўская царква згарэла ў 1790 годзе. Сем гадоў пазней на яе месцы была ўзведзена царква св. Архістраціга Міхаіла. У 1867-1870 гг. была пабудавана могільнікавая царква свсв. Кірылы і Мяфодзія. На старым цэрквіску, дзе стаяў самы першы арлянскі храм, у 1989-1994 гг., дзякуючы намаганням тадышняга настаяцеля а. Аляксандра Такарэўскага, была пабудавана мураваная капліца св. Сімяона Стоўпніка.

Цяперашні настаяцель а. Славамір Хвойка ў згаданым пісьме падкрэслівае: „Званіца з’яўляецца прыкладам традыцыйнага народнага дойлідства і запар з гістарычнай прыходскай царквой з’яўляецца каштоўным комплексам сакральнай праваслаўнай архітэктуры. Неадкладнай справай з’яўляецца капітальны рамонт званічнага інтэр’ера, у тым ліку лесвіцы, столі, даху і вонкавай абліцоўкі ды забеспячэнне перад караедамі. Царква затое патрабуе дапаўнення аконнай сталяркі шляхам выканання і ўстаўлення двайных акон ды выпраўлення ўваходных дзвярэй. Згаданыя недахопы ўплываюць на вялікія змены тэмпературы ў храме, а гэта адмоўна ўплывае на ўнутраную абліцоўку, іконы і іх арнаментацыю ды ўсё аснашчэнне храма. Зараз мы ў ходзе апрацоўкі падрабязнага праекта прац па рамонце царквы і званіцы, каштарыса і графіка работ. Несумненна, што кошт работ і матэрыялаў будзе высокі, парадку сотак тысяч злотаў...”.

- сінагога з XVII ст. у стане незавершанага рамонту;
- рэшткі яўрэйскіх могілак (кіркута) з некалькімі дзясяткамі захаваных мацэваў;
- царква Усячэння Галавы св. Іаана Хрысціцеля з 1785 года ў Шчытах-Дзенцялове. Усярэдзіне царквы карціны Яна Мірыса, надворнага мастака Яна Клеменса Браніцкага;
- званіца з 1840 года ў Шчытах-Дзенцялове;
- каменная скульптура св. Яна Непамуцкага з 1758 года ў Шчытах-Дзенцялове, першапачаткова прызначаная для атачэння палаца Браніцкіх у Беластоку;
- драўляны двор з першай паловы XIX стагоддзя ў Шчытах-Навадворах;
- капліца Шульцаў на могілках у Паўлінове, вельмі запушчаная.

Тэрыторыя Арлянскай гміны з’яўляецца прывабным месцам для турыстаў. Можна тут пабачыць першабытныя закуткі краявіду з балотамі, шматлікія пароды птушак, бабры і кабаргу. Лясы багатыя падлескамі і звярынай, што спрыяе збіральніцтву і паляўніцтву.

Гміна славіцца народным рукадзеллем. Жыхары гміны выраблялі і вырабляюць рэчы з саломы, бярозы, сена, лазы ці паперы. Можна тут сустрэць сталяроў і жывапісцаў ды хатніх гаспадынь, якія займаюцца традыцыйным выпяканнем хлеба.

Па тэрыторыі Арлянскай гміны пралягаюць турыстычныя маршруты:

- прыродна-лясная сцежка „Пад зялёным дубам” даўжынёй каля аднаго кіламетра з Орлі ў бок Рудутаў уздоўж ракі Арлянкі. Вядзе яна каля групы векавых соснаў, побач крутога абрыву ракі, бабровыя загарадзі, паваленыя бабрамі дрэвы і пянькі, тут багатая водная, лясная і балотная раслліннасць.
- шлях праваслаўных храмаў, даўжынёй 150 кіламетраў; у Бельскім павеце яго працягласць каля пяцідзесяці кіламетраў (Бельск-Падляшскі, Парцава, Спічкі, Орля, Шчыты-Дзенцялова і далей). Шлях прамуе праваслаўную культуру Падляшша — гістарычныя, пераважна драўляныя цэрквы, каплічкі, ахвярныя крыжы. Гэты шлях прэзентуе разнародныя храмы Бельска-Падляшскага, вядомы ў краіне і за яе межамі сабор св. Тройцы ў Гайнаўцы ды іншыя цікавыя мясцовасці.
- турыстычны шлях „Дрэва і сакрум” паказвае прыгажосць драўлянай архітэктуры Беласточчыны, адметнасць старых драўляных хат, гістарычных капліц, цэркваў і касцёлаў. Пралягае ён па гмінах Бельск-Падляшскі, Орля, Дубічы-Царкоўныя, Гайнаўка, Чыжы, Нарва, Заблудаў. На жаль, гэтыя абшары турысты наведваюць нячаста, а няслушна.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

(Тэкст апрацаваны на аснове „Плана мясцовага развіцця Арлянскай гміны на 2016-2023 гг.”)

## Праблемы з ачышчальнямі

Каля дзесяці гадоў таму ў Орлі пракладзена каналізацыю, падключаючы яе да існуючай малой ачышчальні, якая была прадбачана на патрэбы новага школьнага будынка і суседняга жылога блока. Мадэрнізацыя падаецца неабходнай.

**Сцёкавая гаспадарка**

На тэрыторыі Арлянскай гміны — у Орлі і ў частцы Дыдулёў — ляжыць каналізацыйная сетка даўжынёй 10,24 кіламетра. Каналізацыяй карыстаецца каля 20% насельніцтва гміны; у 2015 годзе да каналізацыі было падключана 269 будынкаў і карысталася ёю 616 асоб.

На тэрыторыі гміны дзве ачышчальні сцёкаў: у Орлі, магутнасцю ў сорак кубаметраў у суткі, і ў Дыдулях, магутнасцю ў пятнаццаць кубаметраў у суткі. Ёсць таксама 38 каляхатніх ачышчальняў сцёкаў, 702 бяссцёкавыя рэзервуары і адзін зліўны басейн.

У гміне функцыянуюць таксама дзве заводскія ачышчальні: адна механічна-біялагічная магутнасцю ў 25 кубаметраў у суткі і 0,63-0,8 кубаметраў у суткі. Большасць сцёкаў з дамашніх гаспадарак збіраецца ў бяссцёкавыя рэзервуары.

Як сцвярджае План мясцовага развіцця Арлянскай гміны на 2016-2023 гады, рэалізаваная ў гміне водна-сцёкавая гаспадарка некарысна ўплывае на чысціню рэк, падземных вод і глебы. Прычыняецца да гэтага рост колькасці сцёкаў, якія выліваюцца непасрэдна ў натуральнае асяроддзе без ранейшай ачысткі.

У гмінных планах прадбачваецца разбудова і перабудова арлянскай ачышчальні. У 2016 годзе была апрацавана праектна-каштарысная дакументацыя вартасцю амаль у 64 тысячы злотаў брута. Работа ахопіць замену зношанага тэхнічнага і электрычнага абсталявання ды рамонт будынкаў. Вартасць інвестыцыі мае сягаць амаль 2880 тысяч злотаў. У рамках Праграмы развіцця вясковых абшараў на 2014-2020 гады гміна падала заяўку на дафінансаванне задачы перабудовы ачышчальні сцёкаў і воданапорнай станцыі ў Орлі.

Не кожны жыхар гміны разумее патрэбу інвеставання ў ачышчальню. Адзін солтыс у размове са мною палічыў гэта негаспадарнасцю. Я папрасіў войта растлумачыць гэтую праблему. Войт Пётр Сэльвесюк патлумачыў:

— Ачышчальня ў Дыдулях працуе каля двух гадоў і там не плануецца ніякіх інвестыцый. У арлянскай ачышчальні (здадзенай у карыстанне ў 1992 годзе — М. М.) пры маім дзесяцігадовым кіраванні гмінай не былі праведзены ніякія капітальныя рамонты. Затое бягучыя папраўкі праводзяцца, бо некаторыя элементы зносяцца. Ачышчальня была добра выкананая як на тадышнія гады. А калі цяпер не зробім капітальнага рамонту, то яна яшчэ крыху папрацуе і стане, перастане працаваць. І тады сапраўды ўзнікне праблема, бо не будзе прымаць сцёкаў з Орлі. Трэба думаць і планаваць на некалькі гадоў наперад.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

„Ніва” пісала і...

## Ссеклі пасля трох гадоў

Тры гады ніўскі карэспандэнт (а ён і гмінны радны, і солтыс) змагаўся, каб у ягонай роднай вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ссеклі небяспечныя для дарожнага руху сухія дрэвы. Цераз гэтую сярэднюю па велічыні вёску пралягае асфальтавая павятовая дарога № 1635В і сухія дрэвы належалі Павятоваму праўленню дарог у Гайнаўцы. Апошні ягоны допіс пад загалоўкам „Колькі разоў можна маніць?” быў надрукаваны ў першым нумары „Нівы” ў гэтым годзе.

І вось дрывасекі рупліва працавалі пару дзён, пачынаючы з 9 студзеня гэтага года. Так што зараз справа сухіх дрэў паабапал вясковай вуліцы ў Новым Ляўкове закончана.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Закаханая бібліятэка



Да Дня святога Валянціна я, шчыра кажучы, заўсёды ставілася абыякава. Па-мойму была гэта чарговая праява моды на заходняе, у гэты раз аблітае чырвонай масай распушчанага цукру ў форме сэрца. Прытым памер ледзянца павінен паказваць велічыню пачуцця. Гэтае свята звычайна завяршаецца моташнасцю, болем жывата і лішнімі кілаграмамі гэтак званых любімых асоб.

І раптам азарэнне. Гэта ж не ў ледзянцах тут справа, літаральна і метафарычна, а ў нечым найважнейшым у свеце і сусвеце.

Нападаю на бібліятэчную паліцу з паэзіяй. У дастаткова сціплай, школьнай калекцыі бачу анталогію польскай паэзіі і нобелеўскі зборнік „Від з зернем пяску” Віславы Шымборскай. Жыццё без любові гэта не жыццё, нават лаўрэатам Нобелеўскіх прэмій у галіне літаратуры.

Зусім не ідзе тут пра лозунг „Szukam królewicza” з майкі вучаніцы, у якую апранулася на бібліятэчнае мерапрыемства.

*Snuć miłość...*
*Po ziemi ją rozsypać, jak zboże się sieje.*
*Ludziom piastować,*
*jako matka swych piastuje.*
*Stąd będzie moc twa...* — сказаў калісь Адам Міцкевіч.

— Паслухай дарагая мая вучаніца:
*...miłość dawno przybiegła*
*i uklękła przy nas*
*Spokojna bo szczęście porzuciła ciasne*
*Spróbuj nie chcieć jej wcale*
*Wtedy przyjdzie sama.*
(Ян Твардоўскі, „Чаканне”)

У арганізацыю бібліятэчнага падарунку вучням з нагоды Валянцінак уключыўся ксёндз Пётр Васілеўскі і наша бібліятэчна-заранічная мама Ася Янкевіч.

— Езус прасіў любіць нават найгоршага ворага, — тлумачыць ксёндз Пётр. — У праваслаўных і каталікоў пачуцці зусім няважныя. Кахаць можна нават не любячы. Кахаць гэта клапоціцца пра дабро і развіццё іншага. Самай вышынёй кахання з’яўляецца аддача свайго жыцця за іншага. Паводле Святога Пісання, у ліку Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі найважнейшая Любоў. Толькі яна застанецца з намі нават у небе. Кахаць гэта станавіцца святым.

Ксёндз Пётр не забывае таксама пра найважнейшы, найпрыгажэйшы „Гімн пра любоў” з Першага ліста да карынфян, глава 13.

— Пані Яся, уключыце музыку, калі ласка, — звяртаецца да мяне.

„Смуткуючая Маці” выдатна кампануецца са словамі гімна. Уважліва кантралюю гук, каб раптоўным фортэ не здамінаваць чытаючага.

— Яна галодная бацькаўшчыны. Яе музыка ўзнікла з любоўнага голаду, — тлумачу сабраным.

Кампазітарка і выканаўца гэтай чароўнай музыкі — Магдалена Шчэбёт-Мураўская — нарадзілася ў Беластоку. Яе карані ў вёсцы Райск. Цяпер працуе альтысткай у Вроцлаўскай оперы. Разам с сяброўкамі-скрыпачкамі з „Сэнсум Квартэта” запісала дэбютны дыск „Рэха” з імправізаваным на скрыпцы фальклорам родных мясцін.

Галодныя і негалодныя частаваліся пірагамі і ўсялякімі мясаеднымі хрусцікамі, якія спяклі мы разам са спадарыняй Асяй Янкевіч .

Я пажартавала што кожны, хто іх скаштуе, напэўна ў нечым закахаецца.

— Я закахалася ў гэтых хрусціках, — заяўляе малая Бася.

А зноў яе сяброўка Малгося прызнаецца ў любові да чытання. „Які цуд”, — думаю сабе. Тры месяцы назад, калі я пачынала працу ў бібліятэцы, тая ж Малгося скардзілася на кніжную алергію.

Літаратурныя Валянцінкі для старшакласнікаў зусім выпадкова запыніліся на апошніх радках верша Віславы Шымборскай:

*Niech ludzie nie znający miłości szczęśliwej*
*twierdzą, że nigdzie nie ma miłości szczęśliwej.*
*Z tą wiarą lżej im będzie żyć, i umierać.*
(„Miłość szczęśliwa” са зборніка „Widok z ziarnkiem piasku”)

Гэта была вельмі эмацыянальная сустрэча. Любоўны настрой панаваў у бібліятэцы цэлы тыдзень. Юрак з шостага класа ніяк не змог змірыцца з фактам, што, раздаўшы пятнаццаць валянцінак, не атрымаў ніводнай.

І на гэта ў мяне знайшлося лякарства.

— Юрак, — тлумачу малойцу, — дык мы жывем, каб даваць, а не браць і каб любіць, а не быць любімымі.

**Іаанна ЧАБАН**

#Нараўка паўвека таму

Цяпер найбольшая вёска Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета Нараўка налічвае 878 жыхароў (у 2015 годзе было іх 894). У недалёкім мінулым больш тысячы чалавек не было. Вёска знаходзіцца над завілістай пушчанскай ракою Нараўкай. Тут прыгожае ў кожную пару года наваколле. Я помню Нараўку яшчэ з драўлянымі дамамі, такімі ж агароджамі каля іх, брамамі і веснічкамі, з вузкімі вулакчкамі і са старымі могілкамі. Была яна ціхая, спакойная. Толькі на галоўных вуліцах быў брук. Расло многа ліставых дрэў, перш за ўсё ліп. Памятаю 5-кіламетравую пясчаную дарогу з Новага Ляўкова ў Нараўку і той час, калі на ёй пачалася пракладка бруку. Ездзіў фурманкай з бацькам, калі восенню трэба было везці частку жыта (недзе паўтоны) ў вялікія склады ГС, здаваць яго ў рамках г.зв. кантынгенту. Я меў абавязак пільнаваць каня і воз.

Школа, дзіцячы садок, кіно „Лес", амбулаторыя з палатай для парадзіх і памяшканнем для акушэркі на другім паверсе (была яна з ганачкам), пошта, даволі прасторны клуб, крамы, гасцініца з высокімі бетоннымі ўсходамі, пякарня былі ў драўляных будынках. Яны мне падабаліся, былі прыгожыя. Зараз прадаўжаюць сваё існаванне адзін школьны пры самой вуліцы (тут зараз галерэя), прадшкольны (тут святліца) і паштовы будынкі. Установы — ГРН і ГС — знаходзіліся таксама ў драўляных будынках. Дамы гэтыя і зараз стаяць.

Калі я быў яшчэ вучнем пачатковай школы, летам прыязджаў у нараўчанскую кнігарню, купляў падручнікі і іншыя дапаможнікі. У самае жніво высылалі мяне бацькі па дзве-тры буханкі хлеба. Было нас дома шэсць душ. Прадавалі хлеб праз акно ў пякарні, якое выходзіла на вуліцу (знаходзілася яна пры дарозе ў Гайнаўку ды недалёка ад моста цераз раку) яшчэ гарачы проста з печы. Буханкі былі круглыя, пяклі іх на вотруб'і, зверху мелі гладзенькую скарынку карычневага колеру як грыбы баравікі. Хлеб быў духмяны і надта смачны. Пякарня працавала на дзве змены. Па ёй няма ўжо і следу.

У Нараўцы вялікае свята 7 ліпеня, на Яна. У мястэчка прыязджалі жыхары суседніх вёсак, некаторыя з іх у госці. Паабапал вуліцы да царквы гандляры ставілі ларкі з цукеркамі і іншымі ласункамі, рознымі цацкамі, наручнымі каляровымі гадзіннікамі, шарыкамі, мячыкамі (былі і папяровыя з пілавіннем у сярэдзіне ды з гумкамі — мячык адбіваўся ад далоні і вяртаўся), пісталетамі на пістоны і на г.зв. коркі, люстэрачкамі з кіназоркамі, ветрачкамі на дроціку, бранзалеткамі, грабянямі. У іншых ларках можна было купіць марожанае. Па вуліцы шпацыравалі сюды-туды нараўчанскія дзяўчаты ды кавалеры. Сярод дзяўчат і хлапцоў мала было — як мне запамяталася — бландзінак і бландзінаў, а больш смуглявых чорнавалосых. Некаторых прыгажунь раней бачыў у пасляабедною пару і вечарам у клубе. Яны прыходзілі туды кампаніяй паслухаць новыя польскія, рускія і беларускія песні з грампласцінак, выпіць каву або ліманад.

На Яна з самой раніцы на вялікай пляцоўцы круцілася карусель. Мястэчка бурліла патокам людзей і рабілася шматгалосым. Калі было сонечна і стаяў пагодлівы дзень, на вуліцах панаваў вялікі рух і гоман. Тут я сустракаў знаёмых калег з далёкіх вёсак, з якімі рэдка калі можна было ўбачыцца. Пасля поўдня людзі разыходзіліся па дамах. Праз адчыненыя вокны гучалі звонкія спевы. Бяседнікі спявалі „Падмаскоўныя вечары", „Кацюшу", „Распрагайце хлопцы коней", „Там на грэблі шумят вэрбы" або „Касіў Ясь канюшыну". Нараўчане святкавалі, весяліліся. Вечарам ішлі на танцы ў прасторным будынку кіно „Лес". Прыязджала многа моладзі з суседніх вёсак.

Калі я быў вучнем сёмага класа пачатковай школы ў Старым Ляўкове наш клас разам з любімай выхавацелькай Марыяй Сікорскай (яна ўраджэнка Нараўкі, а зараз жыве ў Варшаве) ездзіў у нараўчанскую школу (займала яна два будынкі, адзін з іх быў двухпавярховы) пазнаёміцца з тамашнімі вучнямі. У вялікім зале на першым паверсе былі танцы і наша настаўніца вучыла нас, тады вельмі ж нясмелых, танцаваць. Гэта ўсім нам у далейшым жыцці прыдалося.

Прыдаецца зараз мне і іншая навука з таго часу. У Нараўцы малады тады настаўнік Міхась Зубрыцкі меў фатаграфічнае атэльє і вучыў усіх ахвотных рабіць здымкі ў той час толькі чорна-белыя, праяўляць фотаплёнкі і капіраваць на фатаграфічную паперу. Я гэта вельмі палюбіў і часта ездзіў у Нараўку. Здымкі раблю і цяпер. Як кажуць, навука не пайшла ў лес.

У Нараўцы цікавай ды каларытнай не толькі для мяне асобай быў стары фельчар Лушчынскі (імя яго не памятаю). Ён хадзіў у чорным капелюшы і ў ясна-шэрым плашчы. Аднойчы летам моцна забалеў у мяне зуб і мы з мамай пешшу адправіліся ў Нараўку да адзінага тады медыка. Не было яго дома і прыйшлося нам чакаць да вечара. Фельчар хадзіў з вудамі на рыбалку на раку Нараўку. Калі вярнуўся дадому, яго жонка распавяла пра пацыента з балючым зубам. Гэтая ветлівая жанчына прысвяціла нам шмат увагі, распытвала адкуль мы, пра сям'ю і як нам жывецца. Фельчар вырваў зуб (быў гэта задні г.зв. куцні зуб) без ніякага там наркозу. Я ажно зоркі ўбачыў у ясны дзень. Дантыст пахваліў мяне за адвагу і даў парашок, які дома трэба было распусціць у вадзе і прамываць рану. І справе быў канец. Зараз у доме фельчара жывуць новыя пасяленцы. Яны яго аднавілі, між іншым, ашалявалі і ён прыгожы звонку.

Помняцца мне колішнія школьныя першамайскія шэсці ў Нараўцы. За намі, вучнямі (некаторыя з іх хадзілі ў гарцэрскіх і зухаўскіх мундзірках ды са стужкамі) і настаўнікамі на чале з кіраўніком стараляўкоўскай сямікласнай школы Рыгорам Каролькам, прыязджаў грузавік з высокімі бартамі. Самаход быў упрыгожаны першамайскімі сцяжкамі ды бярозавымі галінкамі з зялёнымі лісточкамі. Мы ехалі праз вёскі і спявалі. Усім было радасна і весела. На нараўчанскіх дамах былі бел-чырвоныя сцягі. Многа сцягоў неслі ў першамайскіх калонах. Іграла музыка. Шэсце суправаджаў духавы аркестр.

Нараўка... Яна дарагая майму сэрцу як мая родная вёска. Прыязджаю ў прыгожы гмінны асяродак культуры, у школу і ў галерэю на розныя культурна-асветныя ды забаўляльныя мерапрыемствы. Зараз Нараўка шмат памянялася, папрыгажэла, у ёй многа новых будынкаў, новыя вуліцы, новыя жыллёвыя пасёлкі, рэстараны, крамы, прыстань для байдарак і начлежныя домікі.

❖Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Жанчыны любяць вышываць



■ Вышывальшчыца Марыя Целушэцкая з Новага Ляўкова

Зараз маем доўгія зімовыя вечары і шматлікія вясковыя гаспадыні ахвотна займаюцца ручной вышыўкай. У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета збіраюцца на вячоркі то ў аднае, то ў другой жанчыны. Вядома, у кампаніі весялей. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, белыя навалачкі на падушкі і святочныя белыя кашулі. Да гэтага трэба мець замілаванне і ахвоту ды спакойны характар, цярплівасць. Сам гэты занятак супакойвае чалавека. Вышывальшчыцы па каляровыя ніткі ездзяць у крамы з махрой, мулінай у Гайнаўку. Некаторыя купляюць іх на базары ад рускіх гандляраў.

Вышыўкай займаюцца жанчыны, між іншым, Марыя Целушэцкая (на здымку) і Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк, Крысціна Паскробка, Міраслава Балтрамюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч і Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Лена Харкевіч, Галіна Бірыцкая, Люцына Зданоўская і Вера Клімюк з Плянты, Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны і Галіна Панкоўская з Семяноўкі. Некаторыя з іх удзельнічаюць у конкурсе пад загалоўкам „Гафт і карункі", які штогод арганізуе Гайнаўскі дом культуры.

❖Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Незвычайная кантрабанда

1 лютага г.г. функцыянеры варшаўскага следчага бюро паліцыі пры падтрымцы функцыянераў мытнай службы з Варшавы і Беластока перашкодзілі ў кантрабандзе каля 600 тысяч папяросаў. Кантрабанда была захавана ў асабліва падрыхтаваных сасновых брусах. Пасылка прыбыла чыгуначным транспартам з Беларусі. Вартасць забяспечаных папяросаў сягае 400 тысяч злотых. Калі б гэтыя папяросы былі прададзены на рынку, дзяржаўная казна страціла б каля 700 тысяч злотых. Тавар занялі функцыянеры на чыгуначнай рампе ў Саколцы. Справай займаецца Мытная палата ў Беластоку.

***

6 лютага функцыянеры Мытнай службы з Будзіска перанялі транспарт 420 тысяч пачак папяросаў (8 400 тысяч штук) непадалёк польска-літоўскай мяжы, вартыя пяць з палавінай мільёна злотых. Гэта самая большая кантрабанда ў Польшчы ў гэтым годзе. Функцыянеры Мытнай службы з Будзіска засяклі грузавую аўтафуру на краёвай дарозе № 8. Па дакументах прад'яўленых расейскім 64-гадовым шафёрам вынікала, што ў прычэпе знаходзіцца санітарная арматура і полістырол. Функцыянеры рашылі дэталёва праверыць тавар і накіравалі аўтафуру на рэнтгенаўскае прасвечванне. Пасля адкрыцця прычэпа выявілася, што ўсярэдзіне знаходзіцца гіганцкая кантрабанда. Мытная служба пачала крымінальную справу, заняла незаконную кантрабанду разам з грузавым аўтамабілем і прычэпам. Зараз мытнікі правяраюць ад каго паходзяць папяросы і куды мелі трапіць. Затрыманаму мужчыну пагражае 10 год зняволення.

***

7 лютага г.г. функцыянеры Мытнай службы з Будзіска затрымалі для праверкі грузавы аўтамабіль на краёвай дарозе № 8, які падаваўся з Расеі ў Галандыю па кветкі. У час кантролю ў прычэпе выявілі металічныя вазкі і пластмасавыя рэзервуары на кветкі. У час рэнтгенаўскага прасвечвання функцыянеры выявілі 20 тысяч пачак беларускіх папяросаў вартыя 250 тысяч злотых. Мытная служба пачала крымінальную справу. Беларускага 50-гадовага шафёра дапыталі, папяросы трапілі на мытны склад, а грузавы аўтамабіль на аўтастаянку ў Сувалках. За так значную кантрабанду пагражае вялікі грашовы штраф, таксама страта папяросаў і аўтатранспартнага сродка.

***

10 лютага г.г. функцыянеры Мытнай службы ў Кузніцы перанялі транспарт 138 тысяч пачак папяросаў (2 760 000 штук) з беларускімі акцызнымі знакамі. Незаконная кантрабанда была выяўлена ў прыспасобленым да таго промыслу чыгуначным вагоне на рампе ў Саколцы. Рынкавая вартасць ацэньваецца на амаль два мільёны злотых. Мытная служба пачала крымінальную справу, забяспечыла незаконную кантрабанду і прыспасоблены для гэтай мэты вагон. Зараз вядзецца расследаванне ў напрамку выяўлення, хто быў фактычным адпраўшчыкам і каму была прызначана пасылка.

Ад пачатку гэтага года падляшскія мытнікі занялі 750 тысяч пачак незаконнай кантрабанды вартай каля 10 мільёнаў злотых. **(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Масленіца і родная мова

На бягучым тыдні мы адзначаем «Масленіцу» — старажытны абрад, акрашаны гурбай бліноў, пончыкаў, хрустаў і ўсякіх пірагоў з сырам і смятанай. Гэта сімвалічны канец карнавалу, запусты перад надыходам Вялікага посту. Але не толькі, на Масленіцу нашы продкі ўжо заклікалі вясну і спявалі: На Масленку да нас прыляцела ластаўка.

Сапраўды ў такі час усе мы добрымі словамі, думкамі, песнямі і салодкім пірагамі заклікаем вясну, каб яна падмацавала нас у працы, планах і марах. Бо хоць у народзе Масленіца, у школе надта важны і працавіты тыдзень.

21 лютага, як што год, у Беластоку пройдзе нацыянальная дыктоўка па роднай мове. Свой удзел пацвердзілі вучні з Нарвы і беластоцкай гімназіі № 7. Як заўсёды гэты выклік падымуць многія вучні праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. У гэты раз дыктоўку разам з навучэнцамі беларускай мовы ўпершыню напішуць вядомыя беларускія дзеячы, дыпламаты, настаўнікі, аніматары культуры, журналісты. Усе пакаленні аб'яднаюць перажыванні за захаванне і развіццё роднай мовы.



Не меншы выклік чакае вучняў пачатковых школ на цэлым Падляшшы. Цягам бягучага тыдня адбудуцца прадметныя конкурсы па польскай мове, прыродзе, гісторыі, рускай мове. А ў пятніцу, 24 лютага ў Бельску-Падляшскім пройдзе цэнтральны этап прадметнага конкурсу па беларускай мове. Як кожны год ён прыцягне многіх удзельнікаў, якія шчыра працавалі, каб дайсці да апошняга этапу.

Мы, зразумела, будзем сачыць за конкурсамі, вашымі поспехамі і выклікамі. У такі працавіты час лепш не аб'ядацца пончыкамі. Лепш адпачыць, паспяваць і падумаць пра вясну. Яна натхняе беларусаў любіць роднае. Як піша беларуская паэтэса Данута Бічэль: Дужэй між птушак, песень і цяпла. А розум, дабрату і прыгажосць табе прырода родная дала.

(гак)

# Конкурсы, рэзананс і радасць!

Паводле лістоў і ўдзельніцтва ў конкурсах — «Зорка» найбольш папулярны часопіс у рэгіёне. Кожны тыдзень мы атрымліваем каля 200 адказаў на крыжаванкі, загадкі, конкурсы. Часта ў іх прымаюць удзел цэлыя класы, або, як у выпадку Арэшкава, цэлая школа (усе вучні падпісваюцца на «Ніву»!) Тут нізкі паклон настаўнікам і бацькам, якія пасрэднічаюць паміж вучнямі і рэдакцыяй. Ёсць у нас мамы, якія кожны тыдзень прывозяць у рэдакцыю конкурсныя адказы і апавядаюць пра радасць і энтузіязм дзетак, якія ўдзельнічаюць у беларускіх конкурсах. Для нас гэта натхненне!

Каб паказаць працэс, напішам пра лічбы. Апошнім часам мы рашылі падлічыць адказы за апошнія тры гады. Іх было больш за пяць тысяч. Гэтая куча адказаў выклікала пазітыўныя эмоцыі таму, што амаль усе адказы былі падпісаныя на беларускай мове.



Для нашых конкурснікаў маем такую інфармацыю: вашы ўзнагароды чакаюць у рэдакцыі «Нівы». Іх можна забраць у кожны працоўны дзень у 8-15 гадзінах. А калі хто цярплівы, хай пачакае. Неўзабаве прыедзем да вас з сяброўскім візітам у школу.

Зорка

## Данута Бічэль
## Радзіма

Радзіма –
нівы, рэкі і бары,
бярозавікам вецер набрыняў,
у Белавежы волаты-зубры,
а вунь мацуе ножкі зубраня.

Радзіма!
Тата, мама і браты,
сястра, бабуля, дзед
і шмат радні
зрабілі ўсё,
каб меў радзіму ты.
Яе высокі гонар не ўрані.

Стварай сваё,
Ды беражы, што ёсць.
Дужэй між птушак,
песень і цяпла.

А розум, дабрату і прыгажосць
табе прырода родная дала.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 09-17

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 12 сакавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Хто ведаць жадае,
Хадзіце сюды,
Можна, сказаць
Хто гатоў,
Дзе рэкі да мораў
Цякуць без вады,
Дзе гарады
без дамоў?
К....

(У. Мацвеенка)

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 6-17: кіт. Узнагароды, дзесяціколерныя аўтаручкі, выйгралі Наталля Гайдук з КШ № 1 у Гайнаўцы, Міхал Вардэцкі з Бельска-Падляшскага, Оля Хіліманюк, Марыя Урбановіч з Нарвы. Віншуем!**

Якуб Голец
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Вайна

Вайна
— гэта штосьці страшнае.
Калісь было поле,
на ім пасвіліся каровы.
Цяпер там пустое месца,
па якім ездзяць танкі,
бегаюць салдаты з аўтаматамі,
падаюць бомбы.
Людзі забіваюць іншых.
Адны — каб выжыць,
іншыя — бо сталі злымі.
У час вайны людзі — ворагі
адны для адных.
Калі канчаецца вайна,
людзі могуць вярнуцца
ў свае хаты,
але не ўсе.
Некаторыя засталіся на гэтых
пустых палях...
Вайна страшная.

## Вершы Віктара Шведа



### Якая наша Зямелька?

Настаўнік пытае
Дзяўчынку Анельку:
— Якую форму мае
Нашая Зямелька?

— Круглую — сказала
Дзяўчынка малая.
— Як ты адгадала?
— Усе ж глобус маюць.

### Што зрабіць трэба каб трапіць у неба?

Настаўнік Божага закону
Пытае вучня Лявона:
— Што зрабіць трэба
Каб трапіць у неба?

— Трэба быць паслухмяным
У царкву хадзіць пастаянна.
— Трэба памерці ранней, —
Падказвае Лёні Андрэй.

## Як Мікола каровай стаў
### (украінская народная казка)

Жыў адзін дзядзька, называлі яго Мікола. Аднойчы пайшлі яны з жонкай у лес: ён па дровы, жонка па грыбы. Бачаць, ажно дарогай ідзе багацей, ды вядзе на вяроўцы карову. У гэтага багацея Мікола працаваў цэлы год і не дастаў абяцанай зарплаты.

— Во, каб нам такую карову! — сказала жонка.

Мікола загадаў залезці жонцы ў кусты а сам ціхенька выйшаў на дарогу. Падышоў да каровы, зняў з рагоў вяроўку і закінуў сабе на шыю. Карова павярнула ў лес, а Мікола брыдзе на павадку за багацеем. Жонка зразумела хітрыкі мужа і без аглядкі пагнала карову дамоў.

А багацей ішоў, не аглядаўся, аж тут насустрач купец едзе:

— Здароў, сусед! — крыкнуў яшчэ здалёк. — Колькі ты даў за гэтага вала?

Багацей злосна забурчэў:

— Калі ты не здольны адрозніць вала ад каровы, дык лепш памаўчы!

— Як гэта карова, дык я пярэстае цялятка! — зарагатаў купец.

Багацей азірнуўся і ад шоку за галаву схапіўся.

— Што за ліха? Я ж купіў карову, а тут такое дзіва...

Стаў ён сярод дарогі і думае, што рабіць.

— Адкуль ты ўзяўся? — урэшце пытае Міколу.

— Я і сам не ведаю, не памятаю, каб ты мяне купіў на базары! — адказаў Мікола.

Багач цалкам разгубіўся.

— А як ты зрабіўся каровай?

— Не ведаю, — кажа Мікола.

— Мабыць, адна ўдава зачаравала мяне. Я калісь быў багаты і надта скупы. Гэтая ўдава працавала ў мяне цэлы год і я не заплаціў ёй за працу. І яна ў гневе выказала такія словы: «Каб ты стаў дойнай каровай і адплаціў мне малаком за ўсю маю працу і крыўду!».

Багацей выслухаў і брыдка вылаяўся:

— Паслаў цябе чорт на маю галаву! Ідзі прэч! Не рабі з мяне дурня!

— Што ты кажаш? — усхваляваўся Мікола. — Не пазбудзешся мяне так лёгка. Хто такое бачыў, каб нявіннаму чалавеку вязаць вяроўку на шыю і паганяць як жывёлу? Пайшлі ў суд, хай яны разбяруцца...

Бачыць багацей, бяда будзе. Заплаціў ён Міколу грошы, каб трымаў язык за зубамі. Вярнуўся Мікола дамоў з поўнымі кішэнямі, а жонка паспела карову выдаіць, малако налівае. Праз нейкі час карова ацялілася. Калі выгадавалі другую карову, рашылі прадаць прыгодную дабычу. Адправіліся на базар. Зразу на рынку абступілі іх купцы. У той дзень лепшай каровы яны не бачылі. Жонка таргуецца, а Мікола па баках разглядаецца. Бачыць, у іх бок той багацей ідзе! Мікола схаваўся за будку ды назірае як пойдуць справы.

А той багацей паглядзеў на карову, заўсміхнуўся і шэпча ёй на вуха:

— Што Мікола, зноў цябе прадаюць?

— Мууүү! — зараўла красуля

— Ты зноў кагосьці ашукаў?

— Мууүү!

— Але я не дурны, каб цябе купляць! — хітра ўсміхнуўся багацей.

— Ідзі ты прэч, стары ашуканец! Ды пашукай дурнейшага за сябе!

***(пераклад з украінскай мовы Ганны Кандрацюк)***

## Замкі і палацы Беларусі

# КАРАЛЕЎСКІ ВОЎЧЫН

У спіску атракцыёнаў Белавежскай пушчы знойдзем Свята-Троіцкі касцёл у Воўчыне. Сваім выглядам напамінае мініяцюрны палацык, якога круглы кштальт і высмакаваны дэкор напамінае пышны торт. Будоўля ахінутая легендамі і таемнымі аповедамі, ад якіх кружыцца галава. Невыпадкова ў касцёле-капліцы быў перапахаваны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай. Яго дух, як кажуць легенды, час ад часу з'яўляецца ў гэтым месцы, а сам касцёл, нягледзячы на акты вандалізму, аднаўляецца.

Як вядома вам з урокаў гісторыі, кароль памёр у Санкт-Пецярбургу ў 1798 годзе, на 66 годзе жыцця. Труна з астанкамі караля была перавезена на радзіму ў Воўчын ажно ў 1938 годзе. Усё рабілася ў вялікімі сакрэце, без выканання неабходных рытуалаў. І як мяркуюць людзі, гэтае невыкананне рэлігійных рытуалаў мела фатальныя паслядоўнасці. Пасля Другой сусветнай вайны касцёл быў закрыты. Зруйнавалі яго і апаганілі вандалы, якія шукалі скарбаў.



Будынак касцёла ўзводзіўся на працягу 14 гадоў. Быў ён завершаны і абсталяваны ў 1743 годзе, дзякуючы намаганням тагачаснага ўладальніка Воўчына князя Міхала Чартарыйскага. Аднак работы па аздабленні інтэр'ераў працягваліся і ў наступныя гады. Гістарычныя крыніцы паведамляюць, што яшчэ ў 1755 годзе тут працаваў архітэктар Крэйц, які быў адным з лепшых вучняў Пёпельмана, Яўха, Дэйбля. Дзякуючы яму і выкладзеным сродкам прыаздоблены ў стылі ракако касцёл лічыўся самым прыгожым на Брэстчыне. У ім менавіта быў ахрышчаны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Як большасць гістарычных будынкаў у Беларусі, касцёл мяняў канфесію і служыў раз каталікам, раз праваслаўным. Гэтыя змены, на шчасце, не пацягнулі за сабой грунтоўных перабудоў будынка. Самы страшны час для будынка выпаў у гады БССР, калі боскай прыгожасці скульптуры анёлаў былі разбіты ды раскінуты побач нішчэючага касцёла з заваленым дахам. На шчасце сёння будынак падымаецца з заняпаду і выклікае вялікую цікавасць турыстаў, якія масава наведваюць Белавежскую пушчу.

**Зорка**

## Польска-беларуская крыжаванка
### № 09-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5 — 17:**

Пас, сход, но, смог, пясок, ер, радар, ух, лімон, ла, зіма, снягір, гурт, ах, падлога. Увага, смех, хор, рог, ліст, гімн, мая, пясок, санкі, анод, сокал, ракета.

Узнагароды, каляровыя лінейкі з фанеры, выйгралі **Тамаш Ваўрынюк** з Нарвы, **Марыя Варанчук, Якуб Аврчук** з Арэшкава, **Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі, **Вікторыя Гаць, Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Зофія Харчанка** з Новага Корніна, **Аляксандра Бакун** з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Facebook | | Park | |
| | Słuch | Kminek | Foto | | | | |
| | Klej | | | | | Imie | |
| Zupa / Emotikon | | | | | | | |
| | Sęk | | Sam / Oda | | | | Nos |
| Snob / No! | | | | | Jan | | |
| | | Duch | | | | | |
| Klaka | | | | | | | |

№ 09 [26-02-2017]

# Бітва пад Валiламі

## (29 красавіка 1863 года)



### Беластоцкі атрад

На світанні 24 красавіка 1864 года горад Беласток партыямі па некалькі чалавек пачалі пакідаць маладыя хлопцы, якія праз Зялёную Пушчу накіроўваліся ў вёску Каменка. Менавіта тут быў прызначаны зборны пункт для добраахвотнікаў, якія рыхтаваліся далучыцца да распачатага ў студзені 1863 года на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай паўстання.

Напярэдадні ў Беластоку былі раскуплены амаль усе каўбасы і хлеб. Занепакоеныя ўлады зачынілі гарадскія заставы, а вуліцы запоўніліся вайсковымі патрулямі. Аднак гэта не перашкодзіла далучыцца да паўстання 70 жыхарам Беластока. 27 красавіка на іх пошукі выступіў расійскі батальён пяхоты пры трох гарматах і сотняю казакоў.

Беласток пакідалі не толькі шэраговыя яго жыхары. Сярод іх таксама былі афіцэры рускага Лібаўскага палка і гарадскога гарнізона, якія далучыліся да барацьбы: Антон Баранцэвіч, Уладзіслаў Брант, Авіт Міцэвіч, Апалінар Роман. Камандзірам паўстанцаў абралі капітана Юльяна Эйтміновіча.

### Злучэнне з бельскім і сакольскім атрадамі

На наступны дзень, 25 красавіка, беластоцкі атрад з-пад Каменкі рушыў у лясны гушчар Стажынкі. Тут да іх далучыліся 130 паўстанцаў з Бельска на чале з адстаўным маёрам расійскіх войскаў Эдвардам Кярсноўскім па мянушцы „Гром". Сабраныя дзве сотні чалавек былі падзелены на секцыі і 26 красавіка яны прыбылі ў вёску Сакалда.

У Сакалдзе жыхарам веські быў прачытаны паўстанцкі Маніфест, у якім адзначалася: „Пасля жудаснай ганьбы рабства, пасля няўяўных пакут прыгнёту, Цэнтральны Камітэт, у цяперашні час адзіны законны твой Нацыянальны Урад, заклікае цябе на поле барацьбы — ужо апошняй, на поле славы і перамогі, якую дасць табе і, у імя Бога на нябёсах, клятвенна абяцае даць, бо ведае, што ты, учарашні пакаяннік і мсцівец, заўтра павінен быць і будзеш героем і волатам".

Паўстанцкі лагер уладкавалі ў старым гушчары ў 7 км ад вёскі. Менавіта сюды прыбываюць 32 паўстанцы з Саколкі на чале з Вінцэнтам Гусцілам. Разам з імі прыйшоў адстаўны расійскі афіцэр Казімір Кабылінскі з вёскі Заціша разам з двума сынамі і пляменнікамі, які даставіў у лагер доўгачаканы правіянт і рыштунак.

Падчас начнога пераходу па беластоцка-крынскім тракце на адным з прыпынкаў адбыўся суд над трыма паўстанцамі, абвінавачанымі ў здрадзе і павешанымі на адным з прыдарожных дрэў.

### Лагер каля Ліпавага Моста

Ранкам 27 красавіка атрад падышоў да лясной вёскі Ліпавы Мост, куды прыбылі начальнік Гродзенскага ваяводства палкоўнік Ануфры Духінскі і кіраўнік яго штаба Валерый Урублеўскі. Новае камандаванне правяло агляд падначаленых яму сіл, перад якімі стаяла задача пазбягаць спаткання з варожымі сіламі, гартаваць свае шэрагі і, па магчымасці, здзяйсняць засады на невялікія расійскія злучэнні.

Затым паўстанцы накіраваліся ў вёску, дзе для жыхароў быў зачытаны Маніфест Нацыянальнага ўрада. На ўзгорку побач з вёскай быў уладкаваны лагер, у якім гатавалі ежу пад наглядам абозніка Юзафа Пухальскага, які да паўстання быў ветэрынарам у Заблудаве.

Але ў хуткім часе было павядомлена пра набліжэнне расійскіх войскаў і атрад накіраваўся ў цяжкадаступны гушчар пад назваю Стажынка, дзе арганізавалі буданы. Хоць і быў канец красавіка, вясна нагадвала аб сабе толькі блакітам пралесак, надвор'е ж было па-зімоваму халодным. А ноччу ўвогуле пайшоў мокры снег. Незадоўга да поўначы ў лагер прыбылі 48 жыхароў Свіслачы, з якімі былі дастаўлены вазы з доўгачаканым правіянтам.

Ранкам 28 красавіка пачаўся агляд войскаў. Адразу выявілася недастатковая колькасць зброі, якую раздавалі паўстанцам. Тым, каму бракавала стрэльбаў і пісталетаў, давалі косы і дубіны. Але і іх у выніку не хапіла 48 паўстанцам.

Узброеных паўстанцаў падзялілі на тры роты, на чале з Романам, Баранцэвічам, дзе былі па 92 стральцы і Кярсноўскім, якому падначальваліся 50 чалавек. Увесь ранак паўстанцы гатавалі кашу. Паколькі посуду на ўсіх не хапала, то елі па чарзе — секцыямі. А затым праводзілі заняткі па баявым складванні.

Урублеўскі спадзяваўся, што ўдасца дасягнуць арганізаванасці ў дзеяннях паўстанцаў да часу іх спаткання з рэгулярнымі войскамі. У іншым выпадку шанцу супраць прафесійных расійскіх войскаў, узброеных дальнабойнымі штуцэрамі, не было.

Увечары данеслі, што ў пушчы расійскія войскі. Трэба было тэрмінова рухацца. Ноччу пачаўся чарговы паход. Рухаліся павольна, бо вазы ўвесь час траплялі ў ямы, або чапляліся коламі за пні і карэнне. Пад раніцу 29 красавіка паўстанцы перайшлі сакольскі гасцінец. Слухаючы, як мітусліва іржалі коні, Духінскі сказаў: „Будзе бітва".

### Лагер у Каматоўшчыне пад Валіламі

Ранкам паўстацы занялі гушчар Каматоўшчына ў Сакольскай пушчы непадалёк ад вёскі Валілы (у 22 км ад Беластока), дзе развялі вогнішчы, каб трохі адагрэцца пасля начнога маршу і падсушыць вопратку. Лагер па загадзе Валерыя Урублеўскага разбілі на ўзгорку Перацёсы, абарончыя якасці якога былі высока ацэнены кіраўніком паўстанцкага штаба.

Апісанне лагера побач з вёскай Валілы пакінуў ад'ютант Урублеўскага Ігнат Арамовіч, які да паўстання працаваў настаўнікам матэматыкі ў Беластоцкай гімназіі: перад фронтам лагера меўся ручай, узгоркі Перацёсу былі па баках, ззаду — балотныя нізіны, за якімі цягнуліся гушчары. Справа, пасярод балот, працякала рэчка Слойка. Найбольш сухая мясціна была ззаду лагера, куды Урублеўскі адправіў трэніравацца першую роту Романа.

Пасля абеду паўстанцкія раз'езды, накіраваныя ў розныя бакі Сакольскай пушчы, пачалі прыбываць з навінамі пра набліжэнне рускіх войскаў. З боку Валілаў ужо чуўся грукат. Калі прыбылі чарговыя коннікі з паведамленнем пра падыход ворага, па лагеры разнёсся заклік „Да зброі!".

Наперадзе, з боку мяркуемага нападу праціўніка, былі выстаўленыя стральцы трэцяй роты — Кярсноўскага і часткова першай — Романа. Рэшта першай роты заняла пазіцыі на скрытым правым флангу, а другая рота была перакінута на левы фланг. У сярэдзіне лагера выставалі вазы, за якімі ў глыбіні пазіцый хаваліся аб'яднаныя ў адзін атрад касінеры на чале з Кабылінскім — рэзерв на выпадак пераходу бітвы ў рукапашны бой. У іншым выпадку ад іх не было ніякай карысці.

Ніхто не ведаў, колькі расійскіх салдат атакуе паўстанцкі лагер. Усе прыслухоўваліся да лясных гукаў, кожны з якіх цяпер падаваўся набліжэннем прыхаванага ў гушчары ворага.

### Бітва пад Валіламі

Была 15:45, калі перад пазіцыяй паўстанцаў паказаліся шэсць казакоў. Пачуліся стрэлы і некалькі вершнікаў пападалі на зямлю, у той час як астатнія адступілі. Зноў чаканне. Цяпер паўстанцы ведалі, што вораг дзесьці побач, набліжаецца пад покрывам старых магутных дрэў. Рускія не чакалі ўпартага супраціўлення з боку паўстанцаў, якія да гэтага доўгі час пазбягалі адкрытага бою.

Пасля праведзенай перагрупоўкі яны нанеслі ўдар у вугал скрыўленага левага фланга, які ўзначаліў асабіста Валерый Урублеўскі. І калі пад агнём паўстанцаў салдаты адступілі, то ім услед гучала паўстанцкае „ўра!". А сярод маладзейшых чулася пытанне без адказу „ўсё?".

Тым нечаканей выглядала другая атака расійскіх войскаў, якія адначасова ўдарылі ў цэнтр і па абодвух флангах. З боку праціўніка пачаўся бесперапынны агонь, гучала каманда „усилиться".

Паўстанцы хаваліся за дрэвамі, выкарыстоўвалі пні і рэльеф мясцовасці. Але іх стрэльбы не дазвалялі трапна дзейнічаць бліжэй, чым 150 крокаў, у той час як спрактыкаваныя вайскоўцы мелі магчымасць страляць з адлегласці далей за 500 крокаў. Толькі адзінкавыя паўстанцы мелі якасныя штуцэры, і цяпер, хаваючыся ў балоце, адстрэльвалі салдат праціўніка.

Некалькі разоў даходзіла да рукапашнага бою ў густым лесе, у якім асабістым прыкладам праявілі сябе Гусціла і Урублеўскі. Апошні ўзначаліў паўстанцаў другой роты, якія адбілі атаку непрыяцеля з левага крыла.

Бітва ішла з пераменным поспехам, пакуль праціўнік не сканцэнтраваў сваіх рэзерваў супраць больш слабейшага правага фланга. Калі там былі забітыя чатыры чалавекі, паўстанцы пачалі адступаць. У выніку левае крыло на чале з Урублеўскім апынулася пад перакрыжавальным агнём праціўніка і таксама вымушана было адступаць. Але захаваўшы баявы парадак, паўстанцам удалося пазбегнуць вялікіх страт.

Бой доўжыўся ўсяго гадзіну. Расійскі генерал Манюкін паведамляў пра арганізаванасць дзеянняў паўстанцаў: „Мяцежнікі дзейнічалі правільнымі ланцугамі і калонамі і сыходзіліся ў густым лесе шмат разоў у рукапашную схватку". Але ў выніку прафесійнае войска ўзяло верх. Да таго ж каля 400 паўстанцам у бітве пад Валіламі супрацьстаялі 1000 прафесійных салдат. Па афіцыйных расійскіх дадзеных, яны страцілі 3 чалавекі забітымі і 21 параненымі. У той час як Адольф Белакоз паведамляў пра 170 чалавек забітых і параненых расійскіх салдат. Паўстанцы згубілі 32 чалавекі, сярод якіх Іосіф Пухальскі, Ян Радзівіновіч і Ян Макарэвіч.

У баі адзначыліся стралец Ян Сабалеўскі з Радуніна, прадстаўлены на ўзнагароджванне Нацыянальнаму ўраду, які атрымаў званне падпаручніка, а таксама Валерый Урублеўскі і Вінцэнт Гусціла.

### Вынікі паражэння

29 красавіка ў 8 гадзін вечара ў Беласток вярталіся расійскія войскі, якія адчувалі сябе пераможцамі і спявалі паходныя песні. На штыках яны неслі капелюшы паўстанцаў, а царскі генерал Манюкін паведамляў, што пад Валіламі „былі перабіты іх начальнікі: Эйтміновіч і Урублеўскі", якія насамрэч засталіся жывымі. Але галоўныя былі не факты, а максімальны эфект на насельніцтва, якое павінна было запалохана і пазбягаць усялякага ўдзелу ў падтрымцы паўстанцаў. Вазы, правіянт, адзенне, грошы ў памеры 1800 рублёў, а таксама ваяводская пячатка, пакінутая Духінскім, траплялі ў рукі войскаў. Але частка паўстанцкага скарбу была напярэдадні бітвы закапана пад адным з дрэў, карчуючы пень якога пасля Першай сусветнай вайны знайшоў адзін з вяскоўцаў.

Перад боем паўстанцам было загадана ў выпадку паражэння сабрацца ў Стажынцы. Але частка з іх пасля бою проста разышлася па хатах, частка, на чале з Эйтміновічам, схавалася ў Сакольскай пушчы, а 37 паўстанцаў на чале з Кярсноўскім накіравалася ў Бельскі павет. Урублеўскі і Духінскі заняліся чарговым зборам паўстанцкіх сіл.

Праз тры тыдні пасля бітвы яе месца наведаў Ігнат Арамовіч. „Перад ручаём была прадаўгаватая магіла з простым невялікім крыжам, а ў ёй спачывалі 32 палеглых паўстанцы, пахаваныя вайскоўцамі на загад маскоўскіх улад. Гэта ўсё мелі быць нашы. На зямлі, пакрытай слядамі людзей і коней, валяліся шмаці адзення і паперы, а смурод навокал быў нязносны. У адным месцы дагніваў забіты конь і над ім кружляў з карканнем груган. Шмат дзе дрэвы былі свежанадсечаныя — даставалі кулі, якія туды траплялі".

У лютым 1864 года арыштаваны Кастусь Каліноўскі падчас следства ўзгадаў бітву пад Валіламі: „Няўдача Духінскага ў баі пад Саколкаю, хаця не такая страшэнная, як рускія афіцыйныя навіны абвяшчалі, дрэнна паўздзейнічала на навакольнае насельніцтва". І сапраўды, паўстанцы згубілі самае галоўнае — час і ініцыятыву, якая цалкам перайшла да расійскіх войскаў.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

# Недачышчанае чысткай

**Каля кіламетра на поўдзень ад Харошчы, побач даўняй дарогі з Беластока ў напрамку Варшавы, знаходзіцца выдатны мемарыяльны комплекс. Прысвечаны ён памяці ўдзельнікаў Студзеньскага паўстання, якія за ўдзел у ім былі пакараны такім жа прысудам, што і Кастусь Каліноўскі. Месца названа Шыбеніцай. Памяць пра жорсткасць паўстання глыбока засела ў людскай свядомасці. Ды і шмат жорсткасці засеялася ў мясцовых душах...**

Ад Харошчы ў напрамку Зачарлян не надта векавыя лясы, мабыць пасаджаныя ў Геркаўскую эпоху. Сама вёска Зачарляны зараз уяўляе сабою раскіданыя ў рознай ад сябе адлегласці новенькія катэджы. Самой вёскі, як вуліцоўкі, мала. На яе паўднёвай акраіне будынак былой школы, які стаў прытулкам для абнадзейваючых вяртанне ў нармальны рытм жыцця наркаманаў. Перад будынкам цэментны праваслаўны крыж з 1890 года з падзячнай эпітафіяй за захаванне пры жыцці расейскага імператара Аляксандра ІІІ. Поезд, які вёз цара, зваліўся з рэек у 1888 годзе, але галоўнаму пасажыру і ягонай сям'і нічога сур'ёзнага не сталася. Пад падзячнай эпітафіяй і ахвяраванне — за здароўе сялян вёскі Зачарляны. Расійскі даведнік з 1899 года пісаў больш: „Памятник увечан 8-конечным железным крестом и окружен красивой легкого рисунка железной оградой. Святая икона Нерукотворенного Спасителева образа прекрасной живописи в сем памятнике — приношение бывшего в сем же поезде и тоже спасшегося кондуктора, уроженца сего селения. Такой же прекрасной живописи Нерукотворенный образ Спасителя прислан им и в Топилецкую церковь".

У жыцці так бывае, што ініцыятар нейкай задумы, у тым ліку згаданага падзячна-прашальнага крыжа, выступае не ад свайго, а ад больш агульнага імя. Так, мабыць, было і ў тым выпадку, хаця нельга адкінуць і такой магчымасці, што царскі выпадак усхваляваў частку насельніцтва. Вось жа зараз і ў нашай дзяржаве маем крыху выпадкаў з важнымі ўладарамі і не ўсе хвалююцца гэтым аднолькава. Аднак такі знак хвалявання можна абагульніць і на ўсё насельніцтва.

Вікіпедыя: „Pierwotnie Zaczerlany były zamieszkiwane w większości przez prawosławnych Białorusinów. W latach 1929-1932 mieszkańcy Zaczerlan domagali się powstania w ich wsi szkoły z białoruskim językiem nauczania. W latach 1944-1946 w ramach akcji deportacji ludności polskiej z terytorium Radzieckiej Białorusi i ludności białoruskiej z terytorium Polski Ludowej oraz w wyniku działalności wrogo nastawionego do miejscowej prawosławnej ludności białoruskiej polskiego podziemia zbrojnego mieszkańcy Zaczerlan masowo ewakuowali się do Związku Radzieckiego (we wczesnych latach powojennych w Zaczerlanach zbrojne podziemie zamordowało ośmiu mieszkańców wsi wyznania prawosławnego i narodowości białoruskiej). W ich miejsce przybyli repatrianci zza linii Curzona. Po dawnych mieszkańcach pozostały prawosławne krzyże wotywne znajdujące się obecnie w złym stanie technicznym. Tragiczne wydarzenia powojenne w Zaczerlanach niosą charakter czystki etnicznej".

У 1934 годзе ў Зачарлянах пражывала 171 асоба праваслаўнага веравызнання, а ў тамашняй школе ўрокі праваслаўнай рэлігіі наведвалі 152 вучні; тут вучыліся дзеці і з суседніх Завад, Касцюкоў, Гаёўнікаў ды Тапільца. У Завадах у 1934 годзе пражывала 212 праваслаўных душ, у Тапільцы 291 асоба, у Гаёўніках 88, у Касцюках 134.

Да бежанства „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага" так згадваў пра: „Zaczerlany, wś włośc., pow. białostocki, w 2 okr. pol., gm. i par. katol. Choroszcza, o 10 w. od Białegostoku, 416 dzies. ziemi włośc. (126 łąk i pastw., 23 nieuż.)"; „Zawady, wś włośc., pow. białostocki, gm. Choroszcza, o 13 w. od Białegostoku, 480 dzies. ziemi włośc. (175 łąk i pastw., 5 lasu, 34 nieuż.)"; „Kościuki, wś, pow. białostocki, par. Choroszcza. 15 w. od Białegostoku, 673 dz. Pod wsią stare cmentarzysko"; „Topilec, wś nad Narwią o 13 w. od Białegostoku, 455 dz. ziemi włośc. i 48 cerk. W r. 1506 nadana monasterowi w Supraśli".

Вікіпедыя: пра Касцюкі „W latach 1929-1932 mieszkańcy Kościuków domagali się powstania w ich wsi szkoły z białoruskim językiem nauczania. Tuż po zakończeniu II wojny światowej kilkunastu prawosławnych mieszkańców wsi zostało zamordowanych na tle religijno-narodowościowym (część z nich w bestialski sposób). W marcu 1946 roku prawosławni mieszkańcy wsi deklarujący białoruską przynależność narodową ewakuowali się do Związku Radzieckiego. Ich miejsce zasiedlili repatrianci zza linii Curzona. Przed wybuchem II wojny światowej ponad sto domów było zamieszkiwanych przez prawosławnych Białorusinów, którzy stanowili większość mieszkańców Kościuk. Wieś przynależała wówczas do parafii prawosławnej pw. Opieki Matki Bożej w Choroszczy. Tragiczne wydarzenia powojenne w Kościukach mają charakter czystki etnicznej"; пра вёску Тапілец „Według Powszechnego Spisu Ludności z 1921 roku wieś zamieszkiwało 88 osób w 14 domach. 84-ech mieszkańców wsi zadeklarowało wówczas białoruską przynależność narodową, zaś pozostałych 4-ech rosyjską. Jednocześnie wszyscy mieszkańcy wsi zadeklarowali wtedy wyznanie prawosławne"; пра калёнію Тапілец істотнай інфармацыі няма; пра Завады „Pierwotnie mieszkańcy wsi byli prawosławnymi Białorusinami i przynależeli do parafii prawosławnej pw. św. Mikołaja Cudotwórcy w pobliskim Topilcu. W latach 1929-1932 mieszkańcy Zawad wysuwali potrzebę stworzenia w ich wsi szkoły z białoruskim językiem nauczania. W ramach przeprowadzonej w latach 1944-1946 akcji deportacyjnej ludności polskiej z terytorium Radzieckiej Białorusi i ludności białoruskiej z terytorium Polski Ludowej prawosławnych mieszkańców wsi deklarujących białoruską przynależność narodową wysiedlono, a na ich miejsce sprowadzono repatriantów zza linii Curzona. Pamiątką po dawnych mieszkańcach jest krzyż wotywny z 1931 r. z cyrylicznymi inskrypcjami znajdujący się przy wjeździe do wsi".

Вышэй была згадка пра этнічныя чысткі з боку ўзброенага польскага падполля. З чаго тая чыстка ўзялася? Праваслаўныя гэтыя вёскі Першую сусветную вайну правялі ў бежанстве, адкуль вярнуліся на зруйнаваную радзіму, але прывезлі з сабою рэвалюцыйны дух. У міжваенны перыяд дзейнічалі тут ячэйкі КПЗБ. З прыходам саветаў у 1939 годзе ў гэтых вёсках адразу ўзніклі ластаўкі савецкага грамадскага строю: у Тапільцы адразу, у 1939 годзе быў заснаваны калгас імя Чапаева. І ў Касцюках паўстаў калгас, і ў Завадах, і ў Бацютах; у Зачарлянах узнік саўгас. У гэтым невялічкім беларускім анклаве на захад ад Беластока завязаўся такі невялічкі Савецкі Саюзік. Адсюль былі дэлегаты ў Маскву, якія захадайнічалі пра далучэнне Беласточчыны да савецкай імперыі. Зорны час гэтай радасці скончыўся з прыходам нямецкай акупацыі. А ўсе нябесныя свяцілы пагаслі пасля адыходу немцаў... Кругом гэтага беларускага астраўка разлівалася ж польскае мора. З красавіка 1945 года актывізавалася польскае падполле і пачаліся забойствы паасобных мясцовых людзей, падазраваных у супрацоўніцтве з савецкімі органамі, забіта некалькі дзясяткаў асоб. Адозвы НЗВ паведамлялі: „Białorusini na wschód! — do Rosji, do dnia 1 marca 1946 r. opuścić ziemie polskie, nie wykonanie zarządzenia — skutki jak wiecie. Czas zemsty i klęski czerwonego tyrana nadchodzi. Precz z okupacją czerwoną. Jutrzenka wolności już bliska". Носьбіты новай грамадскай веры сталі падобнымі мучанікамі, як у час Нерона носьбіты тагачаснай добрай навіны...

Дамова паміж польскім люблінскім і савецкім урадамі з верасня 1944 года пра абмен насельніцтвам, а асабліва ж тэрор падполля, прычыніліся да масавай эвакуацыі мясцовага беларускага насельніцтва ў Савецкі Саюз. У сакавіку і красавіку 1946 года большасць жыхароў згадваных вёсак эмігравала ў СССР. Цягам няцэлых двух гадоў Тапілецкі прыход паменшаў амаль на дзве трэці: з 952 душ засталося 275; Харошчанскі прыход паменшаў больш чым напалову... Зачарляны, Касцюкі, Завады, Тапілец былі заселены польскімі перасяленцамі з усходу...

Крыху аўтахтонаў усё ж засталося. Заглянуў я ў нядзельку ў мураваную тапілецкую царкву, узведзеную неўзабаве пасля Студзеньскага паўстання. Расійскі даведнік з1899 года: „Церковь каменная, с такой же колокольней, в каменной ограде, сооружена в 1870 году средствами Правительства, на месте бывшей здесь сиздавна церкви, сооруженной в давнее время начальством Супрасльскаго монастыря по принадлежности сей местности сему монастырю с 1507 года, именовавшейся Топилец, где братией монастыря заведена была первоначально на р. Нарве рыбная ловля в притоках и устроена часовня, а потом в половине XVII века и деревянная церковь, из материала которой сооружена здесь существующая кладбищенская церковь. В церкви имеется особенно местночтимая св. икона, как чудотворная, святителя Николая чудотворца. Прихожан при церкви: 768 мужского пола и 723 женского, а всех 1491 в 10 селениях: Топильце, Барщевке, Батютах, Гаевниках, Завадах, Зачерлянах, Корицкой Неваднице, Костюках, Новом Топильце и Толчах. Имеются: кладбищенская Георгиевская церковь в Топильце, братство с 1819 года, церковно-приходское попечительство с 1864 года". Цяперашняя царква ў Тапільцы была ўжо некалькі разоў рамантаваная, цяпер таксама яна ў стадыі абнаўлення інтэр'ера. Тут новенькі іканастас, яшчэ не ўкамплектаваны поўнасцю іконамі. Памешчаныя ў іканастасе іконы больш нагадваюць творы заходнееўрапейскага рэнесанснага сакральнага жывапісу, без усходняга аскетызму. У набажэнстве прысутнічала больш чым паўсоткі вернікаў, якіх сярэдні ўзрост, паводле маёй ацэнкі, не перасягаў сарака гадоў. Адбываецца змена пакаленняў: святар назваў каля пяці „новапрадстаўленых" і столькі ж „баляшчых". На аўтастаянцы перад царквою было каля трыццаці легкавушак, каля трэці з іх з беластоцкай гарадской прапіскай.

Вяртаўся я ў Беласток цераз Бацюты, якія таксама ў Тапілецкім прыходзе. Даведнік: „При деревне Батюты имеется каменная часовня в каменной ограде, сооруженная местными поселянами в 1863 году, в память освобождения их от крепостной зависимости помещику, а также и в память о бывшей до 1600 годов в Батютах церкви". Побач капліцы памятны крыж пра пажар вёскі ў 1912 годзе. Вікіпедыя: „Według Powszechnego Spisu Ludności przeprowadzonego w 1921 roku wieś Baciuty zamieszkiwało 321 osób. 276 z nich zadeklarowało wyznanie prawosławne, zaś pozostałe 45 rzymskokatolickie. Jednocześnie polską przynależność narodową zadeklarowało 45 osób (co stanowiło wówczas niecałe 15% wszystkich mieszkańców wsi), zaś białoruską 274 (85% mieszkańców Baciut), pozostałe dwie osoby podały inną narodowość." А цяпер, магчыма, што наадварот...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




■ Крыж у Зачарлянах

# Падарунак са Стаўрапаля



— Вы гэта зможаце прачытаць? — пытае мяне з недаверам, гледзячы на расейскія літары пяцікласнік. Дзве трэцякласніцы расшыфроўваюць „Рабінзона Крузо". І што ім атрымалася ? „Пабін-тройка-он Кпы-тройка-о".

— А што ж гэта за літары такія? — хутка здаюцца дзяўчаты.

Штодзень каля поўдня сталыя ўдзельнікі бібліятэчных заняткаў сыходзяцца на замежныя чытанні.

— А вы што, — раптам паяўляецца нейкі гімназіст, — зноў па-беларуску чытаеце?

Колькі б не тлумачыць, але дзеткі не разумеюць, што расейская мова не беларуская, а беларуская не расейская.

— А як будзе па-беларуску „do widzenia"? — хоча даведацца яго аднакласнік.

— „Пака", — набіраю хуткасці ў расейскіх думках, — значыць. „Пака" гэта па-расейску, а па-беларуску будзе „пакуль". Хлопцы выходзяць. Чую як за дзвярыма каментуюць і прысвойваюць гэты моўны расейска-беларускі нюанс.

Так неяк атрымліваецца, што шмат хлопцаў старэйшых класаў ці гэта на вуліцы, ці ў школе здароўкаюцца са мной толькі па-беларуску.

— А чаму яны да вас так гавораць? — цікавіцца пяцікласнік з бібліятэчнага актыву.

— Ім папросту па-беларуску гаварыць падабаецца, — тлумачу.

Расейскія кніжкі паявіліся ў нашай бібліятэцы знянацку і зараз зрабілі сапраўдны фурор, асабліва вясёлыя і павучальныя гісторыі Нікалая Носава. У кніжным рэйтынгу перамаглі нават англамоўныя бестселеры, якія прыношу дзеткам са сваёй прыватнай калекцыі.

Закупіла іх Карына Барысенка — працаўніца міністэрства скарбу з каўказскага Стаўрапаля. Вельмі хацела, каб быў гэта падарунак на Божае Нараджэнне, але паштальён прынёс цудоўную пасылку крыху пазней, на стары Новы год. Цяжкая каробка з расейскімі пячаткамі прыйшла на мой хатні адрас. На самым версе пад шакаладкамі ў святочных паперках ляжала паштоўка з расейска-польскімі пажаданнямі: „Няхай усе настаўнікі і дырэкцыя школы зразумеюць, што робіш сапраўды вялікую справу". Цёпла стала на сэрцы ад такіх слоў. Праўда такая, што дзякуючы гэтай пасылцы дзеткі перасталі жартаваць з расейскай мовы. Цяпер успрымаюць як кожную іншую замежную мову. На бібліятэчнай, сценнай афішы змяшчаю інфармацыю пра незвычайны падарунак. Мілена ўпрыгожвае яе малюнкам: дзяўчынка трымае ў руцэ кніжку з надпісам „расейскія кніжкі найлепшыя". Яе аднакласніца Таня не хоча быць горшай. На справаздачы са „Шчодрага вечара" малюе пірагі і надпісвае „Бажаю Беларусь!". Ну што ж, здаецца, нашы дзеткі самыя лепшыя дыпламаты. Пры тым надта адважныя.

Шмат людзей прыязджае да мяне ў госці, асабліва замежных. Гэтых з заходняга свету колькі б не прасіў, нічым з табой не падзеляцца, нават кніжкамі. Пэўна думаюць, што іх мова каштоўная і шмат за яе трэба заплаціць. І ўвогуле гэта вялікі гонар ведаць такую мову. У іх важнейшыя выдаткі і заняткі, чым падтрымка нейкай школьнай бібліятэкі. Так думаюць нават амерыканскія выхадцы з Крынак, прынамсі гэтыя, якіх прыйшлося мне сустрэць.

Карына паявілася ўпершыню і засталася са мной назаўсёды. Піша, клапоціцца, ці хацяў мяне ўсё ў парадку. На маю просьбу адгукнулася неадкладна. Згадаліся мне аповеды пра бежанства і расіян, якія ахвотна дапамагалі нашым бедалагам. Такое, невялікае дэжавю. Пакуль я тут і нідзе не збіраюся, але мне здаецца, што Карына заўсёды дапаможа. На гэты раз дапамагла кніжкамі, прыгожымі выданнямі, між іншым, казак Афанасьева, Пушкіна, Гаўфа, Андэрсена. Знайшліся таксама рускамоўныя пераклады сусветнай літаратуры і крыху часопісаў.

Маці Карыны родам з падкрынскай Нетупы. Сама яна нарадзілася ў Слоніме, там па польскім тэлебачанні і песнях Севярына Краеўскага вывучыла польскую мову.

— Не хачу ўдзячнасці, — піша мне ў дапісе, — няхай гэта будзе падарункам ад маёй мамы для яе бацькаўшчыны. Пастаў, калі ласка, у царкве свечку за здароўе мамы Анны і нявінна забітага дзеда Аляксандра Дарашкевіча з Нетупы. Няма дня, каб я не ўспомніла Польшчы, а асабліва Крынак.

Калі Карына чытае маме мае дапісы пра кніжныя поспехі ў Крынках, мама, настаўніца, хвалюецца да слёз. Ім абедзвюм цяжка паверыць, што ўсё гэта праўда. Карына да апошняй хвіліны баялася, што дырэкцыя не прыме яе падарунку.

— Перадай шчырыя прывітанні дырэкцыі, — просіць на канцы допісу.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**




**http://xatni.by**

Беларусы з'яўляюцца адным з тых народаў, якія любяць піва. І беларускія бровары, разумеючы старадаўнасць такой любові, пакрысе пачалі звяртацца да беларусаў па-беларуску. Гэты неблагі маркетынгавы ход выдатна ўпісваецца ў сённяшнюю тэндэнцыю выкарыстання беларускай мовы дзеля прасоўвання тавару пад выглядам нечага спрадвеку роднага. У адным з нядаўніх нумароў „Ніва" пісала пра стварэнне „Лідскім півам" беларускамоўнага сайта. Цяпер жа прыйшла пара распавесці пра інтэрнэт-краму „Хатні бровар", што вучыць варыць піва па-беларуску.

„Піўны" сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://xatni.by**. Выгляд яго цалкам сучасны, бо выкарыстоўваецца распаўсюджаны цяпер інтэрфейс, дзе няма вертыкальнага дзялення на часткі. Уся інфармацыя размяшчаецца на той ці іншай старонцы, займаючы ўсю плошчу сайта.

„Шчасце нельга купіць, але можна зварыць піва", — такі дэвіз месціцца на галоўнай старонцы „Хатняга бровара" на выяве кубка, што напаўняецца півам. Ніжэй распавядаецца пра састаўныя часткі піваварства — солад, хмель, дрожджы і неабходнае для вырабу піва абсталяванне. Таксама на дадзенай старонцы месціцца анонсы рубрык, датычных новых тавараў інтэрнэт-крамы, асабліва вырабу тых ці іншых гатункаў піва.

Выйсці на іншыя рубрыкі знаходзяцца яшчэ зверху і знізу цэлага выяўлення. Найбольш цікавай для першага знаёмства з уладальнікамі сайта падаецца рубрыка „Пра нас". „Інтэрнэт-крама «Хатні бровар» прапануе вам якасныя тавары для хатняга піваварства. Солад, хмель, дрожджы, а таксама карысныя і патрэбныя аксэсуары для таго, каб зварыць ваша хатняе піва, вы можаце знайсці і замовіць на старонках нашага сайта. (...) Наша мэта — развіццё рынку хатняга піваварства, павышэнне якасці беларускага піва, папулярызацыя культуры піваварства і адказнага ўжывання!" — прэзентуюць сайт яго ўладальнікі, не называючы, праўда, сваіх імёнаў, але пакідаючы пра сябе разнастайныя юрыдычныя звесткі кшталту афіцыйнага назова, даты ўнясення ў адпаведны рэестр і кантакты. Паколькі „Хатняму бровару" важна, каб яго тавар куплялі і распаўсюджвалі, то на той жа старонцы змешчаны заклік да супрацоўніцтва, адрасаваны энтузіястам хатняга піваварства, броварам, прадпрымальнікам.

Для тых, каго цікавяць разнастайныя піўныя нюансы — гатункі піва і асаблівасці піваварства, карысным будзе зазірнуць на старонку „Пра піва". Там можна пазнаёміцца з забытымі рэцэптамі піва з хвоі, так званага іглічнага піва, тэхналогіямі варкі хатняга піва, прачытаць расповед пра піварны хмель, выбар соладу, што адрознівае калядное піва ад іншых гатункаў, пра навучанне хатняму піваварству.

Для таго, каб патэнцыйным пакупнікам піўных складнікаў і піўнога абсталявання было зручней зрабіць заказ, на сайце даецца дакладная інструкцыя пра разнастайныя спосабы, як гэта зрабіць. Месціцца яна ў падрубрыцы „Інфармацыя для пакупнікоў" у рубрыцы „Інфармацыя". Там жа змешчана даволі вялікая колькасць рэцэптаў разнастайных гатункаў піва. Сярод іх піва Stout, Bockbier, Marzen, Індыйскі светлы эль (India Pale Ale), Венскае піва (Vienna) і іншыя.

Дарэчы, сайт „Хатні бровар" мае і рускамоўную версію, але яна другасная, бо на яе трэба адмыслова пераходзіць, клікнуўшы на адпаведны значок.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Станкевіч - «палітык» з Арлянятаў



# 110 гадоў з дня нараджэння Станіслава Станкевіча

Вядомых беларускіх дзеячаў Станкевічаў з вёскі Арляняты, што на тэрыторыі сучаснай Смаргоншчыны, было ажно чатыры, таму кожны з іх у беларускай гістарыяграфіі атрымаў яшчэ свае прыдомкі. На люты бягучага года прыпадаюць круглыя ўгодкі Станіслава Станкевіча-палітыка. Вядомы ён як беларускі літаратуразнаўца, грамадска-культурны дзеяч, публіцыст, крытык.

Нарадзіўся Станіслаў Станкевіч 23 лютага 1907 г. Ягоны родны дзядзька па матчынай лініі — Ян Станкевіч, знакаміты беларускі мовазнавец. Вучыўся Станіслаў Станкевіч у Віленскай беларускай гімназіі, потым у Віленскім універсітэце, дзе абараніў у 1933 г. магістарскую дысертацыю на тэму „Беларуская стыхія ў творах Элізы Ажэшкі". У 1936 г. за працу „Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі" атрымаў годнасць доктара філасофіі ў галіне польскай і славянскай літаратуры. У час навучання дзеіў у Беларускім студэнцкім звязе, рэдагаваў „Крыніцу" і „Студэнцкую думку", быў стваральнікам і старшынёй універсітэцкага Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Рабіў шматлікія публікацыі на тэмы беларускай літаратуры ў віленскай беларускай прэсе. Карыстаўся псеўданімамі Язэп Каранеўскі, Алесь Крыга, Дзівасіл.

У час Другой сусветнай вайны разам з іншымі беларускімі нацыянальнымі дзеячамі Станкевіч імкнуўся скарыстаць вызваленне ад бальшавізму, змену таталітарных рэжымаў у Беларусі для аднаўлення працы на карысць беларускай справы, дзеля чаго беларускім нацыянальным актывам перайма́ліся пасады ў мясцовай цывільнай акупацыйнай адміністрацыі. Станкевіч стаў бурмістрам Барысава і займаў гэтую пасаду ў час правядзення антыгабрэйскіх вынішчальных акцый у 1941-1942 гг. Нягледзячы на тое, што няма фактаў, даводзячых непасрэдны ўдзел у Халакосце, і што праз сваю пасаду цывільнага кіраўніка Станкевіч не меў непасрэднага дачынення да масавых расстрэлаў габрэяў, яму, тым не менш, без важкіх падстаў дагэтуль накідаецца абвінавачанне ў вынішчэнні габрэяў Барысава.

Станіслаў Станкевіч быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэса. У канцы 1945 г. у англійскай акупацыйнай зоне Нямеччыны ўзначаліў нелегальны Беларускі нацыянальны цэнтр. Быў першым старшынёй Антыбальшавіцкага блока народаў (1946 г.). Пасля сканчэння вайны супольна з Міколам Абрамчыкам у эміграцыі адрадзіў Раду БНР. Рэдагаваў часопіс БНЦ „Рух" і газету „Бацькаўшчына". Стварыў філію нью-йоркскага Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нямеччыне, рэдагаваў усе чатыры кнігі „Запісаў" Інстытута, якія былі выдадзены ў Мюнхене. Пры газеце было аднайменнае выдавецтва, дзе разам з дзесяткамі іншых кніг выйшлі забароненыя ў БССР „Тутэйшыя".

З 1962 г. жыў у Нью-Йорку. З 1963 г. і да смерці быў галоўным рэдактарам газеты „Беларус", якой пад яго рэдагаваннем выйшла каля 200 нумароў. Стала супрацоўнічаў з Радыё Свабода. У ЗША выдаў кнігі „Беларуская падсавецкая літаратура першае паловы 1960-х гадоў" (1967) і „Янка Купала. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня" (1982). Аўтар працы „Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супрацьрусыфікацыйнаму працэсу" пра ідэалогію і практыку русіфікацыі ў Беларусі ў 1950-х — на пачатку 1960-х гадоў.

Памёр Станіслаў Станкевіч 6 лістапада 1980 г. у Нью-Йорку. Пахаваны на беларускіх могілках у штаце Нью-Джэрсі (ЗША).

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Зіма
## як за даўніх часоў

Не ведаю чаму, але я вельмі люблю зіму і то такую сапраўдную, са снегам, марозам, холадам. У гэтым годзе завітала да нас сапраўдная зіма, амаль такая як на пераломе 2012/2013 года. Люблю зіму, хаця часта прыходзіцца расчышчаць снег, кожнай раніцы скрэбці ветравое шкло ў аўтамашыне і цёпла апранацца, выходзячы на працу. Ну і што ж, калі зіма дык і мароз. Кожная пара года мае свае правы: вясною ўсё расцвітае, улетку — жара, восенню — жаўцее лісце, а зімою — мароз; няхай памарозіць усе вірусы ўсялякіх хвароб.

Мая жонка таксама цешыцца маразамі, бо можна вынесці на балкон кватэры пасцель, каб яна добра прамерзла. А я люблю нашы Каляды, калі белы пух прыкрывае зямлю. У выніку нябачнымі становяцца ўсялякія недасканаласці нашага гарадскога штодзённага жыцця — то стары тратуар, то гарадскі сквер, дзе какаюць сабакі гарадскіх паноў. Снег прыкрывае беллю ўсялякае гарадское смецце, якое хаваецца за казачнай пярынай белага пуху.

Люблю як серабрацца інеем дрэвы гарадскіх паркаў. Але сапраўдныя зімовыя казкі зіма піша менавіта на вёсцы. Можа таму, што там больш прыроды, чым у горадзе: вясковыя сады, рэчка, лясы і палі. Асабліва лясы выглядаюць казачна. Ды і вясковыя падляшскія хаты выглядаюць цудоўна. Прыемна зімою выйсці і падыхаць чыстым, зімовым паветрам. У маім дзяцінстве такіх зім як у гэтым годзе было намнога больш. Напэўна не памятаю такой зімы, каб было снегу на рост чалавека (такія зімы памятаюць мае бацькі), але памятаю як з-за моцных маразоў мы некалькі тыдняў не хадзілі ў школу. А колькі было ў нас уцехі! То ляпілі домікі са снегу, то з сябрамі за стадоламі хадзілі на лыжах, якія нам з дрэва выстругаў дзядзька Сяргей, які жыў у канцы вёскі. То коўзаліся па лёдзе і гулялі ў хакей. Таксама ездзілі на санках. Нас, дзяцей народжаных на пачатку 1980-х гадоў, нішто не магло адцягнуць ад красы і дароў зімы. Мо толькі ноч або грып. Дзецям з майго пакалення не бракавала фантазіі, каб цікава правесці зіму. Узімку мы таксама працавалі. Бацька калоў дровы, а мы ўсёй сям'ёй звозілі іх у дашок. А як цяпер гляджу на сённяшняе пакаленне дзяцей, якія замест гуляць зімою на двары, то яны сядзяць перад маніторам камп'ютара ці гуляюць у «PlayStation». Пакаленне душэўных калек, што не ўмеюць гуртавацца ў асяроддзі і гуляць. Нават нашы бацькі замест збірацца на вячоркі, сядзяць перад тэлевізарамі і толькі пілотам мяняюць каналы.

А я люблю зіму і ўспамінаю, як калісьці на Каляды калолі свінню і бабуля па свінячым апендыцыце — ка**се** (націскны другі склад) гадала ці зіма будзе моцная і доўгая. Як каса была тонкая, то зіма мела быць цёплая і кароткая, а як каса была доўгая і шырокая, то зіма будзе таксама доўгая, з марозам і снегам. А ў гэтым годзе, калі на вёсках Падляшша забаранілі біць свіней, то хто яго ведае, якая была каса. Іншай народнай прыкметай з'яўляецца свята Пакровы, якое выпадае 14 кастрычніка. Мой дзядуля заўсёды паўтарае: як на Пакрову снег упадзе, то будзе ранняя зіма. Ранняя зіма будзе, як вецер будзе веяць з поўначы, як з поўдня — не будзе зімы. І ўрэшце прыкмета, а менавіта народная падляшская прымаўка, якую заўсёды паўтарае мая маці: «Як на Грумніці піэвэнь нап'еццяводыці, то вуол на Юр'я найіэсця травыці». Значыць як на праваслаўныя Грамніцы будзе адліга, то будзе ранняя вясна. У гэтым годзе раніцаю на Грамніцы было нуль па Цэльсію. А калі я вярнуўся з царквы, было больш за плюс. Відаць, у гэтым годзе будзе ранняя вясна. І гэтым аптымістычным акцэнтам канчаю гэты фельетон.

❖ **Юрка БУЙНЮК**



Фота Янкі Целушэцкага

"Снежны паліцыянт" у вёсцы Навасады ў Гайнаўскай гміне

# Прыемны сюрпрыз

Кажуць, што трынаццатае чысло — нешчаслівая дата. У мяне сёлета атрымалася наадварот. Неспадзявана 13 лютага я атрымаў паштовую пасылку. Калі пісьманосец даручаў два пакеты і папрасіў распісацца, дык нават у галаве не мільганула, што гэта пасылка ад... спадара Дзмітрыя Шатыловіча, вядомага ніўскага паэта і пісьменніка, нотабена чарамшаніна. У пасылцы знаходзілася пяць кніжак з подпісам: «Шаноўнаму Уладзіміраві Сідарукові ад Дзмітрыя Шатыловіча — Варшава, 5.02.2017 г.» — «Успаміны 1955-1988», «Асеннія промні», «Водгукі жыцця», «Patos jesienny», «W labiryncie niewoli». Калі 19 студзеня адзначаў я сёлета 77 угодкі з дня нараджэння, дык атрымаў больш за пяцьдзясят віншавальных лістоў і музычных пажаданняў ад ніўскіх сяброў-журналістаў у навагоднім «Шчодрым вечары» на Радыё Рацыя 13 студзеня, таксама ў беларускім канцэрце пажаданняў Беластоцкага радыё ад дачкі і ўнукаў. Значыцца, людзі яшчэ памятаюць. Не забываюць. За гэта маім сябрам шчырае дзякуй! Асабліва спадару Дзмітрыю Шатыловічу за каштоўны падарунак...

Я яшчэ жыву, як калісьці пісаў у сваім вершы наш ніўскі калега Мікалай Краўчук з Патокі. І хоць апошнім часам здароўе падводзіць, не спыняю супрацоўніцтва з «Нівай». І цешуся кожным нечаканым сюрпрызам, калі нехта завітае ў мае сціплыя парогі. У суботу, 18 лютага наведалі мяне Сцяпан Каляда з жонкаю Валяй з Бельска-Падляшскага і Валодзя Данілюк з Маліннік. Прыемная была сустрэча пры пачастунку. Успамінам не было канца. Каб такіх спатканняў было больш. Затым сардэчна запрашаю ў Кузаву, дзе адзінока пражываю. Буду вельмі рады кожнай сустрэчы. Чым хата багата, тым пачастую. Да хуткіх сустрэч. З нізкім паклонам

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. імя з імянінамі ў ... верасні = 18 _ 19 _ 25 _ 26 _;
2. мясцовасць у Белавежскай пушчы, якую наведалі Ельцын, Краўчук і Шушкевіч = 10 _11 _ 20 _ 23 _ 24 _ 28 _ 29 _;
3. большы за вёску = 1 _ 3 _ 2 _ 16 _ 17 _;
4. дэталічны магазін, лаўка = 8 _ 15 _ 9 _ 4 _ 7 _;
5. плённае поле = 21 _ 22 _ 30 _ 31 _;
6. мера вагі ў... пудры = 14 _ 13 _ 27 _;
7. буйны бакавы адростак ад ствала дрэва ў... сукенцы = 6 _ 5 _ 12 _.
8. хвойнае дрэва ў... націску = 33 _ 34 _ 32 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Рака, прыліў, Любань, Дрывяты, джын, жыта, дым, ом, Крапіва, анонс, агляд, свята, білет, крапіва.

Рашэнне: **Калі ў лютым дажджы, тады мокрыя вясна і лета**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 26.02 — 04.03

**(22.03. — 20.04.)** Не адмаўляйся ад сваіх задум 25-28.02. Знойдзеш спосаб, каб палагодзіць канфлікты ў пары. Праяві настойлівасць пры дасягненні пастаўленых мэт. У панядзелак і аўторак атрымаецца зрушыць з мёртвай кропкі нават тыя пытанні, якія раней не паддаваліся вырашэнню. Гэта датычыцца ў першую чаргу кар'еры, але не толькі. Умацуюцца адносіны з бацькамі. Ведай, што хочаш атрымаць ад жыцця.

**(21.04. — 21.05.)** Зможаш палагодзіць усе канфлікты. Будзеш падарожнічаць і вучыцца — у тым атрымаеш найбольшы поспех. Шмат прыемных уражанняў. Дзякуючы ўзмацненню інтэлектуальных здольнасцей зможаш засвоіць той навучальны матэрыял, які раней ніяк не паддаваўся разуменню. Палепшацца адносіны з настаўнікамі. Калі ты не ўпэўнены ў сваіх пачуццях, лепш пакуль зрабі паўзу і адкладзі спатканні.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш мець зацемнены агляд сітуацыі і ў тваіх поглядах. Не дазволь сабой маніпуляваць ані выкарыстаць сябе 27-28.02. Можаш выйграць немалыя грошы. Можаш праявіць сябе ў якіх-небудзь экстрэмальных відах дзейнасці, будзеш захапляцца ўсім, што звязана з рызыкай, вострымі адчуваннямі, станам барацьбы. Выдатны час для занят каў спортам, удзелу ў спаборніцтвах. Узрастаюць сексуальныя патрэбы. Набярэш адвагі, каб падчапіць адну асобу. Смелыя і нестандартныя ўчынкі будуць прыносіць поспех.

**(23.06. — 23.07.)** 26.02. будзеш мець добры настрой і ўдачы ў каханні. Але нейкія словы могуць табе моцна забалець 27-28.02. Складуцца добрыя адносіны ў партнёрстве, таксама дзелавым. Можна падаваць заяву ў загс на рэгістрацыю шлюбу, ладзіць вяселле. Старайся часцей з'яўляцца ў грамадстве разам з каханым чалавекам. Гэта павысіць твой аўтарытэт.

**(24.07. — 23.08.)** 25-28.02. непатрэбна не гарачыся і не злуйся. Можаш раз і назаўсёды пазбавіцца ад некаторых шкодных звычак. Найлепшыя для гэтага дні — панядзелак і аўторак. Сфарміруй у сваёй свядомасці цвёрдую ўстаноўку на адмову ад непатрэбнай звычкі. Час спрыяльны для лячэння любых захворванняў і пераадолення крызісных сітуацый.

**(24.08. — 23.09.)** Паявяцца людзі, на якіх акажаш вялікае ўражанне. 26.02. можаш раптам моцна закахацца. Выдатна складуцца рамантычныя адносіны. Некаторыя актуальныя пытанні будуць паспяхова вырашаны пры падтрымцы каханага чалавека. Спрыяльны час і для выхавання дзяцей. Другая палова тыдня больш напружаная.

**(24.09. — 23.10.)** 25-28.02. можа выбухнуць бура нават у згодных парах, можа быць зашмат уражанняў і няясных сітуацый. Старайся піць як найбольш вады. Прысвяці сябе сям'і і хатнім справам. Атрымаеш радасць ад добразычлівых і цёплых адносін з роднымі і блізкімі. Займіся добраўпарадкаваннем свайго сямейнага гняздзечка, апекай над бацькамі. У другой палове тыдня пакладзі акцэнт на прафілактыку ўласнага здароўя.

**(24.10. — 22.11.)** 26.02. працягні першы руку на згоду. 25-28.02. не трап у канфлікт з правам. Трымай больш актыўныя зносіны з навакольнымі. Будзь у курсе ўсіх апошніх навін, якія тычацца знаёмых, сваякоў, сяброў ці суседзяў. Выкарыстоўвай час для паездак, сустрэч, новых знаёмстваў, навучання. Часцей бывай на свежым паветры.

**(23.11. — 22.12.)** 25-28.02. бунтарская і лішне незалежная пастава не апладіцца табе. Плануй буйныя пакупкі для дома, набудзь неабходныя будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы. Любыя работы ў хаце складуцца лёгка і гладка. Паспрабуй стрымаць дадзенае дзецям абяцанне і не падманвай іх чаканняў.

**(23.12. — 20.01.)** 24-28.02 могуць цябе вывесці з раўнавагі перашкоды, аварыі і непаладкі. 26.02. паявіцца невядомая табе асоба, якая падтрымае цябе на духу і выратуе з кабалы. Пільнуй свае выдаткі. Можаш змяніць свой знешні выгляд. Мужчыны змогуць праявіць свае фізічныя якасці ў занятках спортам або на спаборніцтвах.

**(21.01. — 19.02.)** У апошнія дні лютага лепш не выходзь перад шэраг. Найлепш адасобся ад усіх і разбярыся ў сваіх думках і пачуццях. Зрабі паўзу ў сваёй актыўнасці, асабліва калі ў цябе назапасілася шмат праблем і нявырашаных пытанняў. Другая палова тыдня неспрыяльная для паездак. Магчымыя фінансавыя страты, паломкі тэхнікі, страта або крадзеж грошай. Устрымайся ад буйных пакупак, а ў крамах старайся расплачвацца карткай.

**(20.02. — 21.03.)** Маладзік 26.02. прынясе табе прапанову працы, якую ты доўга чакаў. Лепш трымайся бліжэй да сяброў. Удалы перыяд таксама для знаёмства з новымі людзьмі. Узрастае роля зносін у інтэрнэце: на форумах або ў сацыяльных сетках. Другая палова тыдня можа быць звязаная з цяжкасцямі пры ўзаемадзеянні з партнёрам па шлюбе або бізнесе. Старайся сыходзіць ад спрэчак і не рабі нікому крытычных заўваг.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (74)



Леанід Кустынец і аўтарка

— А колькі часу ваш кіндзюк прыдатны для спажывання?

— Нават і сто гадоў! — кажа спадар Леанід Кустынец.

У прысутнасці спадара Леаніда ўсё здавалася магчымым. Яго аўтарытэт і харызма не дазволілі хоць бы на секунду пасумнявацца. Мне стала жэшка на душы. Знайсці такі рэцэпт, як выйграць мільён еўра на латарэі. Гэта быў яшчэ адзін палескі цуд, які сам нечакана папаўся ў рукі, то-бок, у жывот.

З Леанідам Хведаравічам пазнаёмілася я ў доме бабы Мані, ля берага возера Нобель.

— Пайшлі да мяне ў госці, — прапанаваў ён, — пабачыце, як адрамантаваў я хату.

Раней пахваліла я печ, маляваны куфар і разнаколерныя вышыванкі ў традыцыйным, драўляным мяшчанскім доме старажылкі. Спадар Кустынец, хоць не радавіты *нобельніца*, займеў славу знакамітага дачніка. У мясціне паспелі ўжо прышпіліць яму жартоўную мянушку: *Дзед Шпірт*. Гэта таму, што ён надзвычай гасцінны чалавек. Як сам прызнаўся, калі едзе на дачу, у яго заўсёды поўны багажнік яды і пітва. Ды ніколі не менш трыццаці бутэлечак! Праўда, частка алкагольных напояў ідзе для падрыхтоўкі культавых страў, як шашлык а-ля маршал Жукаў, — пра іх таксама далей пойдзе мова.

Так ці інакш, адмовіцца не было як. Двор спадара Леаніда вабіў нейкай тайнай. Ён знаходзіўся за высокім плотам і салідная брамай. Чалавек адразу разумеў, што тут заходзяць толькі па спецыяльным запрашэнні.

Ды што тут скрываць, ногі самі пайшлі ў госці!

* * *

Ад парога прывітала салідная белая печ з гліны і столь, раздзеленая драўлянымі бэлькамі, архаічныя рэквізіты, неабходныя ў палескіх абрадах і чарах.

Тут жа з'явілася прыслуга ў асобе саракагадовага кавалера Колі. Як аказалася, спадар Леанід прывёз халасцяка ў Нобель, каб засватаць з мясцовай прыгажуняй, таксама ўжо ў гадах. Іх падыходы і залёты скончыліся поўнай паразай. Калі сват пачаў празмерна хваліць і славіць прыкметы і здольнасці кавалера, дзеўка адвярнулася на пяце і насмешліва адрубала ў іх бок: — *А мне ваш секс не цікавы!*

Каб ратаваць мужчынскі гонар, спадар Леанід папрасіў дапамогі ў святара з суседняй парафіі:

— Можа ён з дапамогай малітваў нешта звяжа, — думаў уголас, — можа бацюшка пераканае тую дурачку-дзеўку! Ёй жа таксама трэба замуж!

Гаспадар не ўяўляў шчасця без дзяцей, братоў, дзядзькоў, цётак, пляменнікаў ды ўнукаў. Каму ж тады начыняць усе гэтыя кіндзюкі, жарыць шашлыкі і гатаваць экзатычныя поліўкі і гуляшы? Спадар Кустынец палічыў мяне чуць не сваячкай з-за таго, што я прыехала з Польшчы. У Ольштыне жыве яго польска-ўкраінская сям'я! Двaюрадныя браты і швагеркі, ну, такія, шчырыя, самыя прыгожыя ў свеце *людзіны*. Словам, харошыя палякі!

— І я крыху паляк, — сцвердзіў Хведаравіч. — Хочаце доказ?

— А што...? — разгубілася я.

— *Айнэ момэнт!*

Спадар Леанід пайшоў у прыёмны пакой, адкуль прынёс у руках свой салодкі доказ і з усмешкай паклаў яго ў мае далоні.

— Бачыце, я таксама паляк! — сказаў.

Я зусім аслупянела. Той доказ здаваўся нечаканым і касмічным, як смакавітыя аповеды і кулінарныя рэцэпты спадара Леаніда. Дзякуючы ім гасціна працягнулася далёка за поўнач, ажно ў Нобелі раскукарэкаліся ўсе пеўні. А што за дзіва паслужыла ў якасці польскага „доказу"? Ніхто не здагадаўся!

У маёй руцэ знаходзіўся шакаладны цукерак *Michałki* легендарнай фірмы *Śnieżka*. Ласункі прывезлі сваякі з Польшчы.





* * *

На Палессі ўсё ўгашчэнне зводзіцца да тостаў і прыгожых слоў, якія наперамен выказваюць гаспадары і госці. Першы тост мы паднялі за дружбу. Дзеля гэтага Леанід Хведаравіч дабыў са сваіх легендарных прыпасаў каньяк і заявіў:

— Каньяк генеральска-архірэйскі!

Да каралеўскага пітва абы-якая яда не падыходзіць. І вось нечакана на стол трапіў кіндзюк. Яго смак прыводзіў на памяць штосьці знаёмае, хоць зусім не напамінаў «літоўскіх кіндзюкоў» даступных у магазінах. Я жавала палескае смакоцце і, як славуты Марсель Пруст, аднначасова вандравала па лабірынтах памяці. Смак сушанага духмянага мяса з далікатнай абалонкай плесні адсылаў ажно да часоў вандроўкі народаў, а можа дзесьці яшчэ далей...

Леанід Кустынец у сваім жыцці начыніў можа сто, можа дзвесце кіндзюкоў.

Каб зрабіць прадукт з тэрмінам прыгоднасці для спажывання на «сто гадоў», трэба раней паклапаціцца за якасць мяса і не спяшацца з работай.

— На свае патрэбы я сам гадую не менш пяці свіней, — заявіў.

— Не купляеце мяса ў магазіне?

— Часам пайду на базар, там яшчэ можна дастаць мяса з сапраўднага кабана. Гэта тады, калі вяпрук вырастае па сваёй прыродзе, а не ў два-тры месяцы на вітамінах і хіміі.

Дзеля вырабу кіндзюка патрэбнае найлепшае мяса — паляндвіцы і шынка, прыблізна каля дзесяці кілаграмаў мяса. Да гэтага можна дабавіць кілаграм сала, тады страва праз доўгія гады захоўвае сочнасць. Праўда, я пакаштавала кіндзюк двухгадовай даўнасці, а ў наш час, калі на падрыхтоўку яды прысвячаем пятнаццаць хвілін, страва здалася звышчасовай. На Палессі кіндзюк называюць яшчэ «мацюк» і «трыбушок».

* * *

Леанід Хведаравіч усё прафесійнае жыццё, сорак гадоў, звязаў з Роўненскім мясакамбінатам. Меў шчасце. Яго кулінарныя здольнасці прыкмеціў яўрэй Саколік. Гэта ад яго спадар Леанід навучыўся рабіць шашлыкі і кілбасы на сто спосабаў. Саколік лічыўся жывой легендай у свеце кулінарыі. Доўгія гады служыў асабістым кухарам у самога маршала Жукава. Славуты маршал любіў добра з'есці і выпіць, ён ганарыўся сваім кухарам ды не адпускаў яго ад сябе да канца жыцця. Дзякуючы майстру, спадар Леанід хутка зразумеў, што значыць мець фах у руках.

Я таксама не драмала, ды запісала ад вучня славутага кухара рэцэпт на палескі кіндзюк-мацюк. Увесь працэс пачынаецца з падрыхтоўкі. Паляндвіцы і шынку неабходна пачысціць з плевак і жылаў. Далей мяса трэба пасаліць і схаваць у лядоўню на тры дні, каб яно даспявала ў тэмпературы 0-4 градусы. На дзесяць кілаграмаў мяса трэба 250 грам солі. У міжчасе ідзе падрыхтоўка мачавога пузыра. Яго мочаць у воцаце, націраюць крухмалам і соллю, далікатна шліфуюць. Пасля трох дзён мяса трэба пакроіць на салідныя кускі, дадаць дробна пакрышанае сала, чорны і духмяны перац, каляндру ды начыніць у пузыр. Кіндзюк не пераносіць часнаку і цыбулі. Начынены мясам пухір неабходна на суткі пакласці пад камень, каб вяндліна набрала форму. Далей з мясам ужо працуе час, вецер, салома і стрыманасць. Падрыхтаваны кіндзюк вешаюць пад саламянай страхой, у месцы, дзе ходзіць паветра. Мы невыпадкова згадалі пра стрыманасць. Каб выспеў жаданы смак, мясны ларытэт павінен пабываць пад страхой не менш трох месяцаў. Як сказаў спадар Кустынец, найлепшы выраб, калі міне год часу. А ўжо пасля гэтага тэрміну ён — заўсёды добры, нават сто гадоў.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 09